незалежная газета

№ 32 (725) 31 жніўня 2011

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва.

## З жалезам у крыві

Павел Севярынец: «З сарака гадоў дваццаць мы ў пустыні ўжо адблукалі». Рэпартаж з Купліна. **Старонкі 8-9.**





## Хмарачосы Мінска

Старонка 7

### Тэндэнцыі

## Усё — для народа

**З 1 верасня на 10—26% вырастуць тарыфы на камунальныя паслугі.**

Адпаведнае рашэнне змяшчаецца ў пастанове ўрада ад 30 жніўня № 1153.

У прыватнасці, тарыф на паслугі па тэхнічным абслугоўванні жылых дамоў павялічаны на 10% да 340 рублёў у месяц за 1 кв. метр агульнай плошчы жылога памяшкання.

Акрамя таго, на 25% да 585 рублёў за 1 куб. метр павышана плата за халоднае водазабеспячэнне, на 26% да 305 рублёў за 1 куб. метр — за каналізацыю. Плата за карыстанне ліфтамі павялічана на 20% да 1700 рублёў з аднаго жыхара ў месяц.

**СГ**

### У нумары



Павучальная гісторыя Муамара Кадафі. **Старонка 3.**

# Позна піць Баржомі



**Дэвальвацыя дубль два: рынкавы курс рубля ўзаконяць з сярэдзіны верасня.**

30 жніўня Аляксандр Лукашэнка правёў чарговую нараду, на якой агучыў новы антыкрызісны план. Ён не рашыўся прызнаць чарговае падзенне рубля. У краіне застануцца два курсы валют. Толькі праз паўмесяца, ад сярэдзіны верасня рынкавы курс, які цяпер устанаўліваецца на чорным рынку, будзе легалізаваны праз біржу і абменнікі.

Што ж абяцае Лукашэнка?

**Увядзенне дадатковай сесіі на біржы ў сярэдзіне верасня.** На ёй попыт і прапанова вызначаць рэальны курс рубля. «Ён складзе каля 10 тысяч за долар», — мяркуе незалежны эканаміст Сяргей Чалы.

Такую ж прапанову рабіў у красавіку віцэ-прэм'ер Сяргей Румас. Тады ён меркаваў, што раўнаважкі курс складзе 4000 рублёў. Бясконцае адцягванне рэформаў прывяло да дэвальвацыі рубля на 300%. Цяпер позна піць Баржомі — у аўторак долар на чорным рынку куплялі за 8600 рублёў, а прадавалі яшчэ даражэй.

**Працяг на старонцы 4.**

## Лукашэнка прапанаваў «адмарозкам» сесці за круглы стол

**Кіраўнік Беларусі запрашае апазіцыю, Еўрасаюз і Расію абмеркаваць актуальныя пытанні.**

29 жніўня падчас нарады з педагагічнымі работнікамі Аляксандр Лукашэнка нечакана агучыў ідэю круглага стала.

«Як кіраўнік дзяржавы прапаную ўсім, хто любіць сваю краіну, людзей, да якога б палітычнага лагера яны ні належалі, сядаць за стол (круглы, квадратны), рэальна ацаніць, хто чаго варты і што могуць зрабіць для эфектыўнага паляпшэння сітуацыі ў краіне, а не тупаць і крычаць на плошчах», — сказаў Лукашэнка.

Гэта не першая прапанова круглага стала за час кіравання Лукашэнкі. Былі яны ў 1997 і 1999-м. Скончалася тым, што на перамовы ад улады накіроўваліся не самыя значныя чыноўнікі. Дасягнуць нейкіх рэальных вынікаў так і не ўдавалася.

Ніякага канкрэтнага фармату для новага круглага стала Лукашэнка не агучыў. Няясна, ці збіраецца ён сам у іх удзельнічаць. Хіба што захацеў, каб на перамовах удзельнічала не два бакі, а чатыры.

**Працяг на старонцы 3.**

Мілінкевіч: Нельга, каб улады вызначалі, хто будзе апазіцыяй. **Старонка 3.**




## Сцеражыся, «Барселона»!

**Старонка 6.**

# Суд над тэрарыстамі будзе адкрытым

## Ён пачнецца 15 верасня, але ці раскрыюцца ўсе таямніцы?

Вярхоўны суд пачне разглядаць крымінальную справу аб выбуху ў мінскім метро 15 верасня. Судовае разбіральніцтва будзе праходзіць на адкрытым судовым пасяджэнні ў зале Дома правасуддзя ў Мінску (Сямашка, 33), паведамілі агенцтву БелТА ў прэс-службе Вярхоўнага суда.

«Дзмітрыю Канавалаву прад'яўленае абвінавачванне ў здзяйсненні тэрарызму, што прывяло да чалавечых ахвяр, прычынення цялесных пашкоджанняў рознай ступені цяжкасці, іншых цяжкіх наступстваў; у незаконных дзеяннях у дачыненні да выбуховых рэчываў і выбухных прыладаў, злоснага і асабліва злоснага хуліганства, наўмыснага знішчэння і пашкоджання маёмасці агульнанебяспечным спосабам, — растлумачылі ў прэс-службе. — Уладзіслаў Кавалёў абвінавачваецца ў саўдзеле ў форме дапамогі і здзяйсненні тэрарызму, здзяйсненні злоснага і асабліва злоснага хуліганства, наўмысным знішчэнні маёмасці агульнанебяспечным спосабам, у незаконных дзеяннях у дачыненні да выбуховых рэчываў, укрывальніцтве асобы, якая ўчыніла асабліва цяжкае злачынства, і неданясенні аб здзейсненых асабліва цяжкіх злачынствах».



На волі Дзмітрый Канавалаў любіў з'есці сушы і выпіць піва.

Крымінальная справа будзе разглядацца пад старшынствам першага намесніка старшыні Вярхоўнага суда суддзі Аляксандра Федарцова.

Канавалаў і Кавалёў, абодва 1986 года нараджэння, — ураджэнцы Віцебска. Следчыя сцвярджаюць, што яны здзяйснялі выбухі на працягу доўгіх гадоў. Цяжка паверыць, што пры гэтым яны не трапілі ў поле зроку адной са шматлікіх беларускіх спецслужб. Але наўрад ці пра тое пойдзе гаворка на судзе.

**Сяргей Гезгала**

З ПОШТЫ РЭДАКЦЫІ

## Статкевіч: Па «Нашу Ніву» ў атрадзе чарга

### У Рэдакцыю прыйшоў ліст ад палітвязня, экс-кандыдата ў прэзідэнты Міколы Статкевіча.

«Амаль паўгода не меў магчымасці чытаць Вашу газету і сумаваў па ёй. Хаця ведаю, што ўвесь гэты час газета выпісвалася на мяне, як і на іншых «паўстанцаў».

Ёсць у мяне падазрэнне, што цешча начальніка «амерыканкі» гандлявала прысвоенымі ім газетамі каля Камароўкі. Але як даказаць?

Цяпер я атрымоўваю аж дзве «Нашы Нівы», і гэта добра, бо на Вашу газету ў атрадзе ў мяне чарга. І каб атрымаць прэферэнцыі ў гэтай чарзе, калегі па бараку пачалі даводзіць мне, што іх сваякі на волі галасавалі выключна за мяне :). Веру ім.

Асобнае прывітанне Андрэю Дыньку. Ягоны ліст да мяне ў «амерыканку» быў адзіным за паўгода лістом, атрыманым мной не ад сваякоў. Я адказаў яму, але, гледзячы па ўсім, мой адказ да яго не дайшоў. На жаль, яго прапанова даслаць у Вашую газету мае ўспаміны аб падзеях пачатку 90-х выглядае нерэалізуемай. Як мне тут шчыра сказалі, гэтыя матэрыялы адсюль не выйдуць. Так што пачакаем лепшых часоў».

**Больш пра палітвязняў, змагароў за свабоду — старонка 5.**

**Палітвязню можна напісаць:**

Мікалаю Віктаравічу Статкевічу

Магілёўская вобласць, Шклоўскі раён, п.Маладзёжны, папраўчая калонія №17

## 8 верасня — Дзень беларускай вайсковай славы

«Пасля гадавога перапынку мы зноў запускаем самую пазітыўную мінскую дзвіжуху», — з'явіўся запіс у суполцы «Вконтакте» «Бой падушкамі».

Сустрэча запланавана на 10 верасня, у 17:00 у Парку Горкага. «На гэты раз усё легальна», — напісана ў суполцы.

«У праграме: фінал індывідуальных баёў падушкамі і, канечне, грандыёзны махач паміж камандамі белых і чырвоных», — кажуць арганізатары. Удзельнікаў просяць узяць з сабой падушкі і добры настрой.

Мінулыя разы бойкі падушкамі былі прымеркаваныя да знакавых бітваў беларускай гісторыі. Напрыклад, да Грунвальдскай. 8 верасня — дзень бітвы пад Оршай.

**ЗП**

КАЛЯНДАР

## 30 жніўня — Міжнародны дзень зніклых

Адзначаецца гэты дзень з ініцыятывы Міжнароднага камітэта Чырвонага Крыжа. Традыцыю адзначэння запачаткавала ў пачатку 1980-х гадоў Лацінаамерыканская Федэрацыя сваякоў зніклых людзей.

У снежні 2006 года Генеральная Асамблея прыняла Канвенцыю аб абароне ад гвалтоўнага выкрадання. Дакумент падпісалі больш за 80 дзяржаваў. Беларусь гэтай канвенцыі не падпісала.



**Былы старшыня Цэнтрвыбаркама Віктар Ганчар знік без следу ў 1999-м.**

## Сцісла

- **На Дзень горада алкаголь забараняць не будуць.** «Выязному гандлю ў месцах правядзення святочных мерапрыемстваў продаж спіртных напояў будзе дазволены», — заявіла 30 жніўня на прэс-канферэнцыі ў Мінску начальнік упраўлення культуры Мінгарвыканкама Віталіна Рудзікава.
- **Праца «першага ў свеце віртуальнага абменніка наяўных грошай» Пракапові.ч аднавілася.** Ад панядзелка да аўторка на сайт ішла магутная ddos-атака. Тым часам курс продажу даляра дайшоў да 8900 рублёў, а курс куплі — да 8550 рублёў. **Старонка 4.**
- **Футбаліст Віталь Радзівонаў выбыў надоўга.** У гульца барысаўскага БАТЭ дыягнаставалі поўны разрыў пярэдняй крыжападобнай звязкі правага каленнага сустава, поўны разрыў бакавой унутранай звязкі правага каленнага сустава, пашкоджанне храстка вялікай галёначнай косткі, пасттраўматычны ацёк малой галёначнай косткі. Аднаго з найлепшых форвардаў адправілі лекавацца ў Мюнхен (Нямеччына). Мінімальны тэрмін аднаўлення пасля аперацыі — шэсць месяцаў.
- **У небе над Літвой сутыкнуліся два знішчальнікі.** Літоўскі навучальна-баявы Albatros L-39 разбіўся ў лесе, натаўскі Mirage-2000 здолеў прызямліцца. Пілоты жывыя.
- **Плакала лета, зямлю пакідаючы.** На гэтым тыдні ў Беларусі чакаецца воблачнае з праясненнямі халаднаватае надвор'е. Тэмпература паветра ноччу будзе складаць плюс 6–13°С, днём — 16–23°С.
- **«Камяніца» з «Тройцай» і Алегам Скрыпкай.** У суботу 3 верасня на тэрыторыі Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту ў Строчыцах адбудзецца фолк-фэст «Камяніца». У ім возьмуць удзел найлепшыя беларускія выканаўцы і гурты, у тым ліку «Тройца» і «Стары Ольса». З Украіны прыедзе Скрыпка. Больш — на **старонцы 14.**

**СГ**

## Самае чытанае на nn.by ад 24 да 30 жніўня

1. Казкі пра валютнага белага бычка
2. Актывісткі FEMEN па-свойму адзначылі 20-годдзе незалежнасці Украіны
3. Рэакцыя валютчыкаў — даляр скокнуў да 8500—9000 рублёў
4. 20 гадоў таму Беларусь стала незалежнай
5. Лукашэнка: З сярэдзіны верасня курс стане свабодным
6. Большасць банкаматаў Беларусі не працавалі ў пятніцу
7. Лукашэнка прапаноўвае апазіцыі, ЕС і Расіі круглы стол
8. Уваскрасенне. Косаўскі палац паўстае з нябыту — фотарэпартаж
9. Новы кліп «Ляпісаў» на песню «Прынцэса»
10. Разам (з кілбасамі і кумпяком) мы Беларусь

## Дзякуй падпісчыкам, якія падпісваюцца праз Рэдакцыю

Аляксандру Н. з са Слуцкага раёна.
Ігару Л. са Стаўбцоўскага раёна.
В.А. са Смаргонскага раёна.
Вользе А. з Любанскага раёна.
С.Р., С.Х., Мікалаю Г., Мікалаю В. з Бярозаўскага раёна.
Ганне П., Валянціне А. з Талачынскага раёна.
Валянціне Г. з Бешанковіцкага раёна.
Аляксандру Н., Міхаілу Т. са Слуцкага раёна.
Мікалаю Х. з Шчучынскага раёна.
М.Б. з Ваўкавыскага раёна.
Сяргею Ц. з Докшыцкага раёна.
Анатолю К. з Навагрудскага раёна.
Паўлу П. з Петрыкаўскага раёна.
Любові К. з Гродзенскага раёна
Сяргею К. з Пінскага раёна.
Аляксандру А. з Нясвіжскага раёна.
Яўгену К. са Шклоўскага раёна.
Андрэю М. з Чашніцкага раёна.
Аркадзю К. з Івацэвіцкага раёна.
Е.К. з Дзяржынскага раёна.
Н.К. з Чэрвеньскага раёна.
Пятру К. з Мастоўскага раёна.

# Не забудзьцеся падпісацца!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 10000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 4 гады даказала сваю надзейнасць. Мы зможам дастаўляць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г. Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazu дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190786828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012740628011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпіска праз «Белпошту»** на 2-е паўгоддзе:

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 9210 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 10626 руб./месяц.

Падпісацца можна на кожнай пошце.

# Павучальная гісторыя Муамара Кадафі

Дыктатар расплачваецца за тое, што страляў у народ.

Яшчэ год таму дыктатура Кадафі падавалася непатапляльнай. Прыбыткі ад нафты дазвалялі рост даходаў насельніцтва. І ўзбагачэнне сям'і і аднапляменнікаў. Малаадукаваны электарат, здавалася, купляецца на танную дэмагогію «Бацькі Лівійскай Рэвалюцыі» «сапраўднага народнага лідара», які напрыканцы кіравання замахнуўся на тое, каб стаць «каралём над каралямі Афрыкі».

Аднак пад уплывам народных паўстанняў у Тунісе і Егіпце народ выйшаў на вуліцы Трыпалі і Бенгазі. І Кадафі, па старой звычцы, аддаў загад дэманстрантаў разганяць. Калі не ўдалося разагнаць, прыйшлося страляць. Але гэтым разам дэманстранты аказаліся больш рашучымі, а Захад — гатовым дапамагчы ім. Спатрэбілася паўгода барацьбы, у тым ліку чатыры месяцы ўдараў натаўскай авіяцыі па вайсковых аб'ектах Кадафі, каб рэжым рухнуў.

Кадафі ратуецца ўцёкамі, жыхары Трыпалі расцягнулі на сувеніры залаты посуд і маршальскія фуражкі з ягонай рэзідэнцыі.

Арабскія рэвалюцыі рэзка наблізілі краіны Магрыбу (Паўночная Афрыка) да Еўропы. Па іншы бок Міжземнага мора застаўся толькі адзін непрыязны да Еўрасаюза рэжым: Сірыя. У той жа час астатнія краіны настроеныя на супрацу і інтэграцыю з ЕС. Новыя ўлады Туніса, Лівіі, Егіпта, як і кіраўнікі Іарданіі і Марока арыентуюцца на еўрапейскія каштоўнасці і гатовыя прыстасоўваць краіны да тых стандартаў, якія пануюць у Еўропе. Ролю рэгіянальнага лідара асвойвае Турцыя — дзяржава з дынамічнай эканомікай і інтэлектуальным патэнцыялам.

На ўсходнім кірунку поспехі ЕС меншыя: тут Расія застаецца цэнтрам сілы, і ў яе арбіце дзейнічае беларускі сатэліт. Аднак падзеі на Блізкім Усходзе пацвердзілі, што дэмакратыя працягвае наступ, а дыктатур у свеце меншае з кожным дзесяцігоддзем.

Пасля падзення Кадафі зменшыліся шанцы на ўтрыманне ўлады сірыйскім лідарам Башарам Асадам. Ён таксама зрабіў стаўку на сілу для здушэння народнага паўстання. У краіне загінула ўжо некалькі соцень, а можа і тысяч чалавек, аднак пратэсты працягваюцца.

Муамар Кадафі мог пакінуць сваю пасаду і выехаць з краіны, аднак прапусціў гэты момант, і цяпер размоваў з ім больш весці ніхто не збіраецца.

**Мікола Бугай**



**Сям'я Кадафі знайшлася ў Алжыры**

У аўторак улады Алжыра пацвердзілі, што афіцыйная жонка Кадафі Сафія, ягоная дачка Айша і сыны Ганібал і Мухамед знаходзяцца на тэрыторыі гэтай краіны. Айша вядомая сваімі выступамі на мітынгах прыхільнікаў Кадафі ў часе паўстання. Сын Ганібал быў слаўны сваімі скандальнымі паводзінамі, якія ў свой час выклікалі дыпламатычны канфлікт Швейцарыі й Лівіі, а Мухамед быў нелюбімым сынам ад першай жонкі.

Пакуль няясна, дзе знаходзіцца сам Муамар і ягоныя сыны Сэйф уль-Іслам і Хаміс, якія кіравалі сілавымі структурамі.



**Фотафакт: паўстанец пазуе ў фуражцы галоўнакамандуючага Кадафі. «Я падару гэтую фуражку свайму тату. Ён так пацярпеў ад рэжыму Кадафі, — сказаў паўстанец фотарэпарцёрам. — Я знайшоў яе ў спальні Кадафі. Я пабачыў яе і падумаў: божа, гэта ж фуражка, у якой ён прымаў парады».22 жніўня паўстанцы штурмам узялі ўмацаваны квартал-рэзідэнцыю лівійскага лідара. Той уцёк — праз падзямельны тунэль.**

## Кадафі і інтэграцыя

Муамар Кадафі быў апантаны ідэяй, што Лівія замалая для ягонага генія. Таму ён спрабаваў стварыць большыя саюзныя дзяржавы.

У 1971 годзе ён прапанаваў зліць Лівію з Суданам у адно.

У 1972 годзе ён угаварыў Егіпет аб'яднацца ў саюз з Лівіяй і прыняць адзін сцяг. Прычым сам быў гатовы стаць міністрам абароны новага саюза. Аднак справа скончылася кароткай вайной, у якой егіпецкія войскі адкінулі лівійскія ад мяжы.

У 1974 годзе ён падпісаў дамову з тагачасным прэзідэнтам Туніса Хабібам Бургібай аб утварэнні саюзнай дзяржавы, у якой Бургіба стаў бы прэзідэнтам, а Кадафі — міністрам абароны. Ясна, што ўсе гэтыя планы правальваліся, бо з Кадафі ніхто не мог ужыцца.

## Кадафі і сцягі

Ён змяніў гістарычны чырвона-чорна-зялёны сцяг Лівіі на зялёнае палотнішча ісламу.

## Кадафі і гаварыльня

Кадафі любіў доўгія выступы і быў спецыялістам у розных сферах. Ён камандаваў арміяй, кіраваў эканомікай, вызначыў накірункі развіцця культуры. На саміце Афрыканскага саюза ён павучаў кіраўнікоў іншых дзяржаваў: «Калі ты не гей, табе няма чаго баяцца ВІЧ». Іншы раз ён назваў Біблію падробкай, прыдуманай яўрэямі.

З Лівіі ён выслаў спачатку ўсіх яўрэяў, пасля — усіх італьянцаў. У школах ён замяніў выкладанне англійскай мовы як замежнай на выкладанне рускай. Адзін год ён адмяніў школьныя канікулы, каб школьнікі асвоілі за лета «дзяржаўную ідэалогію».

Ён увесь час удасканальваў сістэму жыцця ў краіне. Гімн ён замяніў на выгук «Алах акбар». За сабой у замежныя падарожжы ён вазіў шацёр і ў ім спаў.

Ён адмаўляў дэмакратыю еўрапейскага ўзору. Адмяніў нават назву «рэспубліка». Прыдумаў сваю форму кіравання: джамахірыя, або ўлада народа. Ад 1973 года ён увёў у краіне законы шарыяту і забараніў алкаголь. Жанчыны перасталі з'яўляцца ў грамадскіх месцах.

**Сяргей Гезгала**

## Новая ўлада Лівіі не будзе звальняць старых паліцыянтаў

Карцінка з Трыпалі: у тамтэйшы РУУС наведнікаў прапускаюць па дыване з выявай Кадафі, а на вуліцы расцяжку з выявай Муамара паклалі на КПА на зямлю. Хто ідзе і хто едзе, кожны наступіць ці пракоціцца.

У панядзелак мясцовыя паліцыянты выйшлі на першы дзень працы пасля звяржэння рэжыму. Старшыя афіцэры на працягу некалькіх дзён заклікалі калег вярнуцца ў кабінеты.

Нацыянальная пераходная рада, новы кіруючы орган Лівіі, спадзяецца пазбегнуць беззаконня, якое ўтварылася пасля падзення Садама Хусэйна ў Іраку, і вырашыла не звальняць нікога з паліцыянтаў.

**СГ**

## Палітыка сцісла

• **Спыненыя крымінальныя справы супраць тых удзельнікаў Плошчы, якія цяпер на волі.** Пад «амністыю» трапілі Рыгор Кастусёў, Анатоль Лябедзька, Уладзімір Кобец, Анатоль Паўлаў, Алег Корбан, Наталля Радзіна. Апошняя знаходзіцца за мяжой, у Літве. Пакуль вяртацца ў краіну яна не адважваецца.

• **КХП-БНФ заклікае да неадкладнай адстаўкі Лукашэнкі.** У суботу пры зачыненых дзвярах адбыўся з'езд Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ. На безальтэрнатыўнай аснове старшынёй пераабраны Зянон Пазняк. Дэлегаты прынялі пастанову паводле якой «Аляксандр Лукашэнка павінен неадкладна падаць у адстаўку, каб даць магчымасць больш кампетэнтным палітыкам вывесці краіну з крызісу».

• **Новы офіс БНФ.** 25 жніўня адчыніў дзверы новы офіс Партыі БНФ, які месціцца па адрасе вуліца Крапоткіна, 93А. Адкрыццё прымеркавалі да круглай даты — 20-х угодкаў надання Дэкларацыі аб суверэнітэце канстытуцыйнага акта.

**ЗП**

# Лукашэнка прапанаваў «адмарозкам» сесці за круглы стол

Працяг са старонкі 1.

«Я прапанаваў і Еўрапейскаму саюзу, хацеў бы прапанаваць і Расіі, іншым міжнародным структурам накіраваць сваіх прадстаўнікоў для ўдзелу ў гэтым круглым стале. Няхай яны заадно паглядзяць, хто ў нас чаго варты, якія ідэі вылучае і якія мэты перад сабой ставіць», — сказаў Лукашэнка.

Тым не менш, у ягоным выступе не чыталася, што круглы стол будзе месцам для абмену ідэямі, а не прыняцця рашэнняў. Запрашаючы апазіцыю на перамовы, Лукашэнка не змяняе сваё стаўленне да яе. На той самай нарадзе ён казаў аб нібыта супрацыпраўнай, антыграмадзянскай дзейнасці апазіцыянераў.

Што датычыць саміх іншадумцаў, то ўмовай для круглага стала яны ставяць вызваленне палітвязняў. Не можа быць перамоваў, калі за кратамі Саннікаў, Ус, Статкевіч, Дашкевіч і іншыя, мяркуюць яны. Толькі Сяргей Калякін сказаў, што ніякіх умоваў вылучаць не трэба, трэба садзіцца і размаўляць.

**Зміцер Панкавец**

# Мілінкевіч: Нельга, каб улады вызначалі, хто будзе апазіцыяй

Лідар Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч пракаментаваў словы Аляксандра Лукашэнкі аб скліканні круглага стала з апазіцыяй, Еўрасаюзам і Расіяй.

«Я быў і застаюся прыхільнікам перамеnaў, але не любым коштам. Пакуль у вязніцы знаходзяцца апаненты ўлады, то нельга садзіцца ні за якія сталы. Няхай яны прадэманструюць павагу да людзей з іншымі поглядамі, адпусціўшы іх. Першы крок за ўладамі.

Па-другое, думаю, улада сама захоча вызначыць тых людзей, якія будуць удзельнічаць ад апазіцыі ў гэтых перамовах. Ні ў якім разе нельга гэтага дапускаць. Мы самі павінны вызнаць іх. Гэта павінны быць прадстаўнікі і палітычнай супольнасці, і грамадзянскай, і журналісцкай, і эксперты.

Думаю, што цяпер дзеянні ўладаў усё больш дыктуюцца эканомікай. Менавіта эканоміка іх галоўны вораг. Такімі перамовамі ўлады спрабуюць неяк залагодзіць адносіны з Еўрасаюзам, бо разумеюць, што без іхняй дапамогі не могуць адбыцца структурныя рэформы.

Калі б на круглы стол не запрасілі Расію, то гэта быў бы вельмі моцны ўдар па яе іміджы. У выпадку перамоваў трэба падымаць тэмы вызвалення палітвязняў, пераходу да дэмакратычнай формы кіравання, свабоды прэсы, спынення рэпрэсій, а таксама аб наспелых рэформах у розных галінах. У нас іх страшэнна многа».

**ЗП**

# Позна піць баржомі

**Чорны курс даляра дарос да 8500—9000 рублёў, а еўра — да 12 000—13 000 рублёў. Ад пачатку года дэвальвацыя дасягнула шакуючых 300%. Цяперашняе адставанне афіцыйнага курса складае 70—75%. Сітуацыя з абменнікамі за межамі краіны яшчэ горшая. У Вільні даляр прадаюць за 9660 рублёў, а еўра за 13 800 рублёў.**

Працяг са старонкі 1.

**Продаж валюты па пашпартах.** Аляксандр Лукашэнка даручыў распрацаваць электронную базу ўсіх купцоў валюты. «Гэта існуе ў многіх краінах свету, у тым ліку і ў Расіі», — заявіў ён. Улады мяркуюць, што гэта зменшыць абароты валютчыкаў, якія будуць баяцца купляць шмат замежных грошай. «Гэта супярэчыць прынцыпам свабоднага рынку», — заўважае Сяргей Чалы. Трохі дзівяць тэрміны. Пашпартная сістэма запрацуе ў кастрычніку, але валюта нібыта з'явіцца ў продажы ўжо ў верасні, тады ж і адбудзецца самы масавы «набег» беларусаў на абменнікі.

**Вялікія даходы ад росту цэнаў будуць пераводзіцца ў загадкавыя спецфонды, з якіх будуць выплачвацца грошы бедным беларусам.** Гэта самая дзіўная заява. Здаецца, гэта чысты папулізм, без сувязі з рэальнасцю. «Складваецца ўражанне, што былі ўзятыя прапановы ад абсалютна розных колаў, і з іх наторганыя асобныя дробныя пункты. Калі ўлады нарэшце пераходзяць да свабодных цэнаў, то як можна адбіраць прыбытак?» — не разумее Сяргей Чалы.

**Свабодны продаж валюты ў абменніках.** «Усе абменнікі пасля адкрыцця дадатковай сесіі таргоў будуць павінны прадаваць даляры», — паабяцаў Лукашэнка. Але курс будзе рынкавым.

**Дазвол на перавод рублёвых дэпазітаў у валютныя.** Але важны момант: па якім курсе і на які дзень? Па 5000 ці па 9000?

**Спыненне эмісіі рублёў.** «Не праводзіць беспадстаўнай эмісіі», — запатрабаваў Лукашэнка.

**Прыцягнуць $5 мільярдаў да канца года.** «Узгадайце падзеі сярэдзіны мая, калі Лукашэнка заявіў, што Мядзведзеў патэлефанаваў яму і прапанаваў $6 мільярдаў, — кажа Чалы. — І дзе тыя грошы?» Ён раіць ставіцца да гэтага абяцання скептычна: «Беларусь можа атрымаць $2,5 мільярда ад продажу акцый «Белтрансгаза», адкуль возьмуцца астатнія грошы — незразумела».

**Ягор Марціновіч**

# Казкі пра валютнага белага бычка

Топ-10 абяцанак беларускіх чыноўнікаў аб выхадзе з крызісу.

«Да канца года валютная сітуацыя будзе вырашана». Чарговае абяцанне Аляксандра Лукашэнкі, дадзенае падчас нарады з чыноўнікамі, зноў узняло курс даляра на чорным рынку. «Наша Ніва» нагадвае ранейшыя абяцанкі прадстаўнікоў улады і адсочвае, як змяняўся курс пасля іх.

### Хроніка піке. Выбранае

**16.04.2011**

**Аляксандр Лукашэнка:** «Сёння, заўтра, паслязаўтра — выраўняем сітуацыю. Але вы на мяне не крыўдуйце. Выкараскаемся. Самае складанае мы прайшлі». **Курс* — 3500 рублёў.**

**21.04.2011**

**Аляксандр Лукашэнка:** «Калі хтосьці думае, што ў гэтай сітуацыі мы разгубіліся і не ведаем, што рабіць — глупства. Вось пагледзіце — мы за першае паўгоддзе забудземся, што ў нас адбывалася і адбываецца цяпер: і фінансы, і спажывецкі рынак». **Курс — 3600 рублёў.**

**12.05.2011**

**Аляксандр Лукашэнка:** «Так, сёння складанавата. Вырулім. Праз 1–2 месяцы мы спакойна забудземся ўсялякія валютныя бязладдзіцы». **Курс — 4500 рублёў.**

**19.05.2011**

**Прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч:** «У найбліжэйшы час Беларусь выйдзе на рэальны курс нацыянальнай валюты на аснове рэальнага попыту і прапановы, ачышчаны ад спекулятыўных дэвальвацыйных чаканняў». **Курс — 5500 рублёў.**

**21.05.2011**

**Прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч:** «Уніфікацыя курса нацыянальнай валюты будзе ажыццёўлена ў бліжэйшы час. Гэта будзе адбывацца ў два этапы. На першым этапе будуць прынятыя рашэнні, каб збіць павышаны попыт, а пасля атрымання стабілізацыйнага крэдыту курс будзе фармавацца на падставе попыту і прапановы, што знізіць тыя [дэвальвацыйныя] чаканні, якія сёння пакуль яшчэ прысутнічаюць». **Курс — 5800 рублёў.**

**03.06.2011**

**Віцэ-прэм'ер Сяргей Румас:** «На працягу 10–14 дзён сітуацыя вырашыцца цалкам. Ёсць узгодненая з Антыкрызісным фондам ЕўрАзЭС матрыца дзеянняў». **Курс — 6200 рублёў.**

**08.07.2011**

**Прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч:** «Выхад на раўнаважкі абменны курс беларускага рубля ва ўсіх сегментах валютнага рынку магчымы ў бліжэйшы час». **Курс — 6300 рублёў.**

**27.07.2011**

**Аляксандр Лукашэнка:** «Думаю, што ў бліжэйшы час нам трэба будзе канчаткова прыняць рашэнне, бо інфармацыі сёння дастаткова для таго, каб адкрыта сказаць, што мы будзем рабіць, якое рашэнне будзем прымаць». **Курс — 6300 рублёў.**

**01.08.2011**

**Прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч:** «У Беларусі ў другой палове жніўня будуць прыняты рашэнні па валютнай і эканамічнай палітыцы ў 2011 годзе». **Курс — 6700 рублёў.**

**25.08.2011**

**Аляксандр Лукашэнка:** «Паўтара-два месяцы ў нас на стабілізацыю на валютным рынку. Цалкам. Каб насельніцтва не проста слухала, верыла ці не верыла, а паверыла, што курс, які вызначаны, будзе дзейнічаць і далей, і сітуацыя будзе развівацца ў гэтым кірунку, які будзе вызначаны прэзідэнтам». **Курс — 8300 рублёў.**

** курс на сайце Пракаповi.ч, у валютчыкаў і банках за межамі Беларусі.*

**Ягор Марціновіч**




ЕЎРАРАДЫЕ

# Цукар супакоіўся, дык мяса пачалося

Дэфіцыт мяса знікне, калі цэны зраўняюцца з расійскімі.

Устаць а 6-й раніцы і заняць чаргу — цяпер адзіны спосаб купіць недарагое мяса. Інакш давядзецца купляць паўфабрыкат па 50 тысяч рублёў за кілаграм. «Мяса па 12 тысяч рублёў», якое абяцаў некалькі месяцаў таму міністр сельскай гаспадаркі Міхаіл Русы, засталося ў гісторыі.

Прычына банальная — мясакамбінаты з большым задавальненнем прадаюць сваю прадукцыю за валюту ў Расію, дзе цэны нашмат вышэйшыя. Міністэрства эканомікі трэці раз за жнівень павялічыла закупныя цэны на мяса, але для расбалансаванай эканомікі застаецца толькі адно выйсце — свабодны рынак са свабоднымі цэнамі.

Улады ж працягваюць рабіць добрую міну пры кепскай гульні. Старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька загадаў «скласці графікі паставак мяса да канца года».

**ЯМ**

# Іран выгнаў «Беларуснафту» з радовішча Джафэйр

Беларусь згортвае разрэкламаваную здабычу нафты ў Іране.

Беларуская дзяржаўная кампанія «Беларуснафта» спыняе здабычу нафты ў Іране. Прычына — абвастрыліся рознагалоссі з Нацыянальнай нафтавай кампаніяй Ірана. Па паведамленнях шэрагу іранскіх СМІ, нафтаздабычу «Беларуснафта» фактычна спыніла яшчэ пры канцы чэрвеня. Аднак афіцыйна кантракт яшчэ не скасаваны.

Беларусь яшчэ ў верасні 2007 года падпісала з урадам Ірана кантракт на распрацоўку радовішча Джафэйр. Праца непасрэдна па здабычы нафты пачалася ў 2009-м.

Аднак цяпер дырэктар іранскай дзяржаўнай кампаніі Petroleum Engineering and Development Co. Наджы Садуні кажа, што «Беларуснафта» не выконвала ўмоваў кантракта. Яна павінна была здабываць больш за 3,5 тысячы барэляў нафты ў суткі, а на практыцы ні разу не ўдалося перавысіць паказчык 2,8 тыс. барэляў.

«Беларуснафта» пацвердзіла, што кампанія спыняе працы ў Іране, аднак заяўляе, што сама перадумала здабываць нафту: «У ходзе работ былі выяўлены новыя дадзеныя аб геалагічнай будове радовішча, што абумовіла змяненне тэхнічных і фінансава-эканамічных умоў рэалізацыі праекта. Улічваючы гэта, прадпрыемства «Беларуснафта» прыняло рашэнне аб выхадзе з гэтага кантракта пасля першага этапа. Магчымасць спынення выканання кантракта пасля заканчэння любога з этапаў была прадугледжана ўмовамі кантракта».

**Сяргей Гезгала**

## Сцісла

• **Стаўка рэфінансавання з 1 верасня складзе 27%.** Рост на 5% адразу выкліча чарговы рост ставак па крэдытах і дэпазітах.

• **«Беларуськалій» перадумаў закладаць акцыі.** Кіраўнік «Беларуськалія» Валерый Кірыенка упэўнены, што ўрад Беларусі адрачэцца ад крэдыту Ашчадбанка Расіі і «Дойчэ Банка» на $2 мільярды ў абмен на заставу 35% акцый прадпрыемства. «Не так ужо ў нас усё дрэнна, каб пайсці на гэта», — сказаў ён.

• **«Стоп-бензін».** З чарговым падаражаннем паліва сутыкнуліся аўтамабілісты. З 20 жніўня бензін і дызпаліва сталі даражэйшымі на 3%. А з 1 верасня падаражэе яшчэ і звадкаваны газ. Рост цаны складзе 9,8%. Мінімальная цана за літр будзе 2 370 рублёў, максімальная — 2 800. За жнівень цэны на звадкаваны газ, які прадаецца праз АЗС, павялічыліся ў сярэднім на 24%.

• **Пуцін загадаў знізіць цану газу для Беларусі.** Зніжка называецца «інтэграцыйным паніжальным каэфіцыентам». Які ён будзе, у бліжэйшы час вызначаць Мінэнерга і «Газпрам».

• **«Шоп-туры» ў Мінск адмяніліся самі.** Расійскія Туры «Пакуль у Беларусі крызіс — паспей скупіць усё па вельмі нізкіх цэнах» праваліліся. У дзесяцімільённай Маскве не знайшлося нават 20 чалавек, якія хацелі б наведаць мінскія крамы.

**ЯМ**

# «Высвятляем, інфармацыю аб чыіх рахунках выдалі палякі»

Праваабаронца з былога цэнтра «Вясна» Таццяна (на фота) Равяка расказала пра магчымае развіццё падзей па справе Бяляцкага.

**«Наша Ніва»: Польскі бок, як і літоўскі, перадаў беларускім уладам інфармацыю аб банкаўскіх рахунках Алеся Бяляцкага. Ці вядома, на каго яшчэ былі запыты?**

**Таццяна Равяка:** Робім усе магчымыя крокі, каб высветліць. Бо інфармацыя можа закрануць іншых праваабаронцаў, грамадскіх актывістаў. Мы зрабілі афіцыйны запыт у Генеральную пракуратуру Польшчы.

**«НН»: Як лічыце, ці атрымае справа Бяляцкага працяг: ці будуць заведзены справы на іншых людзей?**

**ТР:** Валянцін Стэфановіч, відаць, будзе прыцягнуты да адказнасці ў адміністрацыйным парадку. Бо сума, з якой ён нібыта не сплаціў падаткі, «не дацягвае» на крымінальную справу.

**«НН»: Вяртацца ў Беларусь — гэта канчатковае рашэнне Валянціна?**

**ТР:** Так, ён гэтага не хавае.

**«НН»: Вы зараз таксама за мяжой. Выехалі з-за магчымага пераследу?**

**ТР:** Я вяртаюся ў Беларусь на гэтым тыдні. У мяне ёсць сумневы, што на мяне будзе заведзеная справа. Ведаю, што на мяне таксама быў запыт у Літву. Але суд забараніў перадаваць інфармацыю пра мяне. Не выключаю, што аналагічны запыт быў зроблены і ў Польшчу.

**«НН»: Паведамлялася, што інфармацыю пра банкаўскія рахункі перадала яшчэ і Чэхія. Вам пра гэта вядома штонебудзь?**

**ТР:** У прэсе з'яўлялася інфармацыя, што чэхі выдалі звесткі аб рахунках Алеся Бяляцкага. Гэта няпраўда. Бо ні ў каго з сяброў «Вясны» не было банкаўскіх рахункаў у Чэхіі. І я веру заяве чэшскага МЗС, што ніякай інфармацыі беларускім уладам не перадавалі.

Праваабаронца Валянцін Стэфановіч цяпер знаходзіцца за мяжой. Літоўскі бок выдаў інфармацыю і пра яго банкаўскія рахункі беларускім уладам. Але Валянцін заявіў пра сваё вяртанне ў Беларусь, хаця не выключае магчымага арышту. У ліпені ў Дэпартаменце фінансавых расследаванняў КДК яму былі прад'яўлены раздрукоўкі з яго рахункаў у літоўскіх банках. Інфармацыя аб іх наяўнасці магла патрапіць у рукі ўладаў з канфіскаваных адразу пасля прэзідэнцкіх выбараў у вясноўцаў камп'ютараў. І пасля быў толькі аформлены афіцыйны запыт у Літву.

**Сяргей Макарэвіч**


SVABODA.ORG

# Ірына Халіп не пазнала Саннікава


**Ірына Халіп на парозе Навапалацкай калоніі.**

Адбылося першае спатканне журналісткі з мужам у калоніі.

Ірына Халіп наведала ў Навапалацкай калоніі свайго мужа, былога кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава.

«Я не пазнала яго, — сказала спадарыня Ірына карэспандэнту «НН». — Першая думка была, што адміністрацыя калоніі прывяла да мяне нейкага чужога дзядзьку. Ён паголены — без барады, вусоў, лысая галава. Выліты Брус Уіліс». Саннікаў пэўны час хадзіў з паголенай галавой, але з барадой. Калі ж заўважыў, што сам сабе нагадвае Шаміля Басаева, вырашыў згаліць і бараду. Па словах журналісткі, Андрэю Саннікаву давялося памахаць жонцы рукой, каб яна яго пазнала.

Спатканне працягвалася каля дзвюх гадзін. Умовы для сустрэч нагадваюць Валадарку: кабінка, тэлефон, шкло. Адзінае, што тут кабінак нашмат больш.

Саннікаў працуе на вытворчасці гофракардонных скрыняў. Вытворчасць шкодная, Андрэй Алегавіч моцна кашляе. Але, па яго словах, тут кашляюць усе, бо экалогія надзвычай кепская. Побач з іхняй брыгадай вараць мыла і вырабляюць поліэтылен.

Умовы ўтрымання ў калоніі досыць суровыя. У карцар можна трапіць за выпадкова расшпілены гузік на робе.

У размове закранулі тэму вызвалення дзевяці палітвязняў. Па словах Ірыны, Саннікаў даклад на ведае людзей, якія адмовіліся падпісваць пакаяльныя паперы на імя Лукашэнкі, а таксама тых, хто падпісаў, але застаўся ў няволі. Ён не стаў называць прозвішчы.

Нагадаем, 14 мая суд Партызанскага раёна Мінска асудзіў кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава на пяць гадоў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Ірына Халіп 16 мая была асуджаная на два гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання пакарання на два гады.

**Сямён Печанко**

Палітвязню можна напісаць: 211445, Віцебская вобласць, Навапалацк-5, ВК-10, 3-і атрад, Саннікаву Андрэю Алегавічу.

## Сцісла

• **Наталля Класкоўская з дзецьмі 29 жніўня адправілася на доўгатэрміновае спатканне да мужа.** Спатканне працягнецца тры дні. Аляксандр Класкоўскі адбывае пяцігадовае пакаранне ў калоніі ў Шклоўскім раёне за ўдзел у акцыі пратэсту 19 снежня.

• **Пачаўся судовы працэс над апошнім абвінавачаным па справе аб масавых беспарадках Святаславам Барановічам.** Але 29 жніўня ў суд з пацярпелых з'явіліся толькі дванаццаць. Таму суддзя Алена Рудніцкая вырашыла задаволіць толькі хадайніцтва адваката аб меры ўтрымання Барановіча і перанесла працэс. Разгляд справы працягнецца 28 верасня. Абвінавачаны знаходзіцца пад падпіскай аб нявыездзе.

• **Статкевічу даслалі ў калонію пашпарт.** Знікненне выявілася яшчэ 27 чэрвеня, калі яго жонка Марына Адамовіч прыехала ў калонію. У судовай справе дакумента не было. У КДБ ж сцвярджалі, што перадавалі пашпарт у суд. Яго адсутнасць магла б стварыць шэраг праблем палітыку нават за кратамі.

• **19-гадовага жыхара Маларыты падазраюць у спальванні дзяржаўнага сцяга.** 10 ліпеня малады чалавек разам са знаёмым зняў сцяг з будынка Маларыцкай дзіцячай музычнай школы. А вечарам 20 ліпеня ў лесе яны спалілі сцяг на вогнішчы, зняўшы свае дзеянні на мабільнік. Фота хлопец выклаў у інтэрнэце. Па іх міліцыя ўстанавіла яго асобу.

**КМ**

# Наступнікі Чака Норыса з'явіліся ў БНФ

Алеся Каліту, Сяргея Семянюка і Максіма Губарэвіча вінавацяць у хуліганстве. Ім пагражае да шасці гадоў пазбаўлення волі.

Нібыта 13 жніўня хлопцы збілі Алега Гордыша, ахоўніка будынка, у якім месціцца новы офіс партыі БНФ. Маладыя людзі не адмаўляюць, што ў той дзень была сутычка з вартаўніком. Паводле іх словаў, той быў нецвярозы і чапляўся да людзей, што прыехалі на Сойм партыі. Пасля вусных заўваг маладыя людзі вывелі мужчыну на вуліцу і адправілі дадому. У міліцыю ж легла заява аб збіцці вартаўніка Калітой, Семянюком і Губарэвічам.

Сябры партыі БНФ называюць справу палітычна матываванай. У ёй фігуруе яшчэ адна супрацоўніца цэнтра. Але ні яна, ні вартаўнік ніякіх прэтэнзій да маладых людзей не маюць. На вочнай стаўцы Алег Гордыш заявіў, што ён міліцыю не выклікаў, заяву не пісаў, а звярнуўца па медэкспертызу яго змусілі. У яго былі зафіксаваныя лёгкія цялесныя пашкоджанні. Гордыш на вочнай стаўцы таксама сказаў, што хоча «разысціся мірам».

Каліта адчувае, што на абодвух «пацярпелых» ціснуць спецслужбы. І параўноўвае сваю справу са справай Дашкевіча і Лобава. Апошніх асудзілі на два і чатыры гады калоніі адпаведна за збіццё двух чалавек напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў. Каліта перакананы, што так спецслужбы хочуць аслабіць апазіцыю.

«Следчы напісаў сцэнар да баявіка. Па ягонай версіі, я падскочыў і ўдарыў нагой з разварота пацярпелага ў грудную клетку. Калі будзе рэканструкцыя падзеі, абавязкова буду патрабаваць выканаць гэты элемент», — кажа Сяржук Семянюк.

**КМ**

# Уладзімір «навушнік» Хамічэнка: мне заплацілі за «масавыя беспарадкі»

Некалькі дзён не было вядома імя дзявятага памілаванага па справе аб масавых беспарадках. Ім аказаўся Уладзімір Хамічэнка, якога пасля падзей 19 снежня ахрысцілі «навушнікам».

Па вызваленні, як стала вядома, ён стаў на ўлік у Слуцку. Там ён зайшоў да загадчыцы інтэрната Слуцкага сельскагаспадарчага ліцэя Тамары Івановай.

«Пасадзілі яго ў машыну, адправілі дахаты і сказалі: «Каб мы цябе больш не бачылі. Жыві ў Слуцку». З яго слоў, дзверы Дома ўрада ён разбіваў за грошы. Яму далі 250 даляраў і ледасек у рукі. Хто гэта быў, не кажа.

Дай яму сто даляраў і гранату — і ён здольны на ўсё. Ён жа недалёкі! За свае ўчынкі ён не адказвае. Хамічэнка папрасіў у мяне грошай. Я сабрала яму торбу з прадуктамі, а назаўтра зноў з'явіўся да мяне на працу. Ахайна апрануты, але спіртным пахне. «Мне трэба дапамагчы», — кажа. Параіла яму аднаўляць дакументы і шукаць працу. Ён паскардзіўся, што ў кватэру патрапіць не можа. Сказаў, што баіцца ўзломваць дзверы. Дзе ён жыве — не ведаю. З яго слоў, далі прытулак добрыя людзі», — расказала яна.



**Паводле «Салідарнасці»**

11 жніўня Лукашэнка вызваліў дзевяць палітвязняў, асуджаных па справе аб масавых беспарадаках. Зміцер Дрозд, Арцём Грыбкоў, Сяргей Казакоў, Васіль Парфянкоў, Яўген Сакрэт, Віталь Мацукевіч, Уладзімір Яроменак, Аляксандр Квяткевіч.

# Бандарэнку не вызваляюць, але і ў калонію не пераводзяць

Змітра Бандарэнку выпісалі з 5-й клінічнай бальніцы, дзе ён праходзіў рэабілітацыю пасля аперацыі. Цяпер ён пераведзены ў турэмную бальніцу на Валадарскага. Праз адваката і ў лістах Зміцер адзначае, што болі не сціхаюць. Зміцер пісаў ліст начальніку Мінскага ізалятара з просьбай змякчыць меру стрымання ў сувязі з адбыццём трацііны тэрміну зняволення. Але той сказаў, што не можа нічога зрабіць, пакуль не будзе праведзена атэстацыя Змітра. Але правесці яе могуць толькі ў калоніі, куды Бандарэнку пакуль не пераводзяць. Жонка таксама адзначыла, што муж не пісаў і не збіраецца пісаць прашэнне Аляксандру Лукашэнку аб памілаванні.

Зміцер Бандарэнка асуджаны на два гады пазбаўлення волі за ўдзел у акцыі пратэсту 19 снежня.

**КМ**

# Наймацнейшы клуб свету прыедзе ў Мінск

**Барысаўскі БАТЭ ў чацвёрты раз запар трапіў у групавы этап футбольных еўракубкаў. Як і тры гады таму, каманда выйшла ў Лігу чэмпіёнаў.**

Шлях барысаўцаў да гэтай вяршыні быў не самым лёгкім. На дарозе паўставалі паўночнаірландскі «Лінфілд», літоўскі «Экранас» і аўстрыйскі «Штурм».

З усімі гульні развіваліся па падобным сцэнары: нічыя ў першай сустрэчы, перамога БАТЭ ў матчы ў адказ. Складаней за ўсё тут было са «Штурмам». Бо нічыя прыпала на хатнюю сустрэчу.

На Радзіме Арнольда Шварцэнэгера беларусы выглядалі куды больш упэўнена. У прынцыпе, супернікі так і не атрымалі шанцаў на перамогу. Аляксандр Валадзько і Марка Сіміч сталі творцамі перамогі — 2:0.

Ва ўнутраным чэмпіянаце БАТЭ чакаў нядзельны трылер з мінскім «Дынама». Напэўна, гэта найлепшы паядынак на ўнутраным фронце за апошнія гады.

«Дынама» двойчы выходзіла наперад, але барысаўцы іх даганялі. У гульні было ўсё: запоўненыя трыбуны, забітыя галы, пенальці, выдаленне. Цяжкую траўму атрымаў нападаючы чэмпіёна Віталь Радзівонаў. У гульнях Лігі чэмпіёнаў ён наўрад возьме ўдзел.

Яшчэ быў кур'ёзны выпадак, калі чырвоную картку атрымаў брамнік БАТЭ Аляксандр Гутар. Усе замены былі вычарпаныя, таму на вароты быў вымушаны стаць абаронца Ягор Філіпенка. Галоў ён так і не прапусціў, стаўшы героем матча.

Што да Лігі чэмпіёнаў, то лёсаванне вызначыла ў супернікі беларусаў наступныя каманды: «Барселона», «Мілан», «Вікторыя» (Пльзень).



PHOTO.BYMEDIA.NET

Віктар Ганчарэнка ў другі раз вывеў БАТЭ ў Лігу чэмпіёнаў.

## Армія Каталоніі

Тры гады таму ў Мінск ужо прыязджаў мадрыдскі «Рэал», а зараз завітае і «Барселона». На сённяшні момант — гэта самы моцны клуб у свеце. Чарговы раз «Барса» даказала тое ў мінулым розыгрышы Лігі, калі ў фінале перамагла «Манчэстэр Юнайтэд» — 3:1.

У Каталоніі кажуць: «Барселона» — больш, чым проста клуб». Доўгі час каманда нават адмаўлялася ад рэкламных лагатыпаў на сваіх майках, бо сіне-гранатавыя колеры — сімвал Каталоніі.

«Барса» разам з «Рэалам» і баскім «Атлетыкам» з'яўляюцца камандамі, якія ніколі за сваю доўгую гісторыю не пакідалі іспанскую Прымеру (вышэйшую лігу). Цікава, што ў дзень лёсавання «Барселона» абышла «Рэал» па колькасці выйграных тытулаў. 76 супраць 75 у Каралеўскага клуба.

Дарэчы, уся гісторыя «Барселоны» цесна аб'ядноўвае спорт і палітыку. У 1925 годзе балельшчыкі на стадыёне спявалі каралеўскі гімн, які быў адменены дыктатурай Прыма дэ Рыверы. Заснавальніка каманды Хуана Гамплера пазбавілі пасады прэзідэнта клуба, пасля чаго той засіліўся.

У 1936 годзе паўстанцы Франка забілі тагачаснага кіраўніка клуба Хасепе Суньёля. Праз год «Барса» накіравалася ў ЗША, каб зарабіць валюты. У выніку палова каманды не вярнулася на радзіму, дзе ішла грамадзянская вайна.

Франка лічыў «Барселону» клубам «недысцыплінаваных каталонскіх нацыяналістаў». Назву каманды перарабілі на іспанскі кшталт, раней яна была англамоўнай, а з эмблемы выкінулі герб Каталоніі.

У 1990-ыя і 2000-ыя праз «Барселону» прайшлі дзясяткі сусветных зорак. Бразілец Рональда некалі сказаў крылаты выраз: «Каталонія — гэта краіна, а ФК «Барселона» — яе армія».

Сёння касцяк каманды складаюць футбалісты, якія выйгравалі апошнія першынствы свету і Еўропы. Віктар Ганчарэнка сказаў, што гульні з такой камандай будуць самымі цікавымі ў ягоным жыцці.

## Клуб Берлусконі

Дзесяць гадоў таму БАТЭ ўжо гуляў з «Міланам». Тады барысаўскі клуб толькі пачынаў свой шлях да Лігі чэмпіёнаў. У тым «Мілане» саліраваў украінец Андрэй Шаўчэнка. Скласці канкурэнцыю італьянцам так і не атрымалася.

Дзве сухія паразы БАТЭ. Аднак у выніку «Мілану» прыглянуўся барысаўскі нападаючы Віталь Кутузаў. Беларуса набылі за 5,5 мільёна еўра. Гэты трансфер па сённяшні дзень лічыцца самым дарагім у гісторыі беларускага футбола.

Праўда, загуляць за «Мілан» у Кутузава так і не ўдалося. За «чырвона-чорных д'яблаў» Віталь правёў усяго дзве гульні, пасля чаго яго пачалі кідаць па арэндах.

«Мілан» уваходзіць у дзясятку клубаў з самымі высокімі заробкамі. На еўрапейскай арэне ніхто не выйграваў больш тытулаў за яго.

Зорны час «Мілана» прыпаў на 70—80-ыя. Гульня каманды ў той час будавалася вакол двух трыа: шведскага (Грэн, Нордаль, Лідхольм) і галандскага (Гуліт, Райкард, ван Бастэн).

Ужо шмат гадоў уладальнікам «Мілана» з'яўляецца прэм'ер-міністр Італіі Сільвіа Берлусконі. Быў перыяд, калі эксцэнтрычны прэм'ер збіраўся прадаць каманду Муамару Кадафі, але перадумаў.

Пяць гадоў таму «Мілан» трапіў у карупцыйны скандал, але з ганарам з яго выйшаў. Не было даказана, што клуб гуляў матчы па дамоўленасці. У той самы сезон «чорна-сінія» змаглі выйграць Лігу чэмпіёнаў.

## Горад з вярблюдам на гербе

А вось чэшскі клуб «Вікторыя» багатай гісторыяй пахваліцца не можа. Дарма, што каманда была заснаваная аж у 1911. Самага значнага поспеху яна дабілася толькі сёлета, калі выйшла ў Лігу чэмпіёнаў.

Пльзень — гэта чацвёрты па велічыні горад Чэхіі, ён знаходзіцца на Захад ад Прагі. У XV стагоддзі гэта быў гусіцкі цэнтр. Цікава, што на гербе горада намаляваны вярблюд.

Гісторыя кажа, што гэтага вярблюда плзенцы ўзялі ў якасці трафея ў гусітаў, якія бралі ў аблогу горад. Да гусітаў вярблюд трапіў ад «польскага караля», які атрымаў яго ў падарунак ад татараў.

Магчыма, што вярблюд мог трапіць не ад палякаў, а Вялікага князя літоўскага Вітаўта. Менавіта да яго гусіты звярталіся з просьбай аб дапамозе, прапануючы яму чэшскую карону. Тым больш, Вітаўт меў пэўныя кантакты з татарамі.

Таксама ў Пльзені вараць адзін з найлепшых чэшскіх гатункаў піва — Pilsner Urquell.

Футбалісты з Пльзені поспехаў доўгі час дасягнуць не маглі. Толькі ў 1971 годзе быў выйграны Кубак Чэхаславакіі. Наступных поспехаў давялося чакаць сорак гадоў.

Крыху ў цень адышлі ў чэшскім футболе старыя лідары — пражскія «Спарта» і «Славія». «Вікторыя» гэтым цудоўна скарысталася, першы раз у гісторыі заваяваўшы золата першынства.

«Вікторыю» і БАТЭ аб'ядноўвае тое, што матчы яны правядуць не дома. У Пльзені і Барысаве няма сучасных стадыёнаў. Давядзецца гуляць у Празе і Мінску.

**Зміцер Панкавец**

## Расклад гульняў

**13 верасня: «Вікторыя» — БАТЭ**
**23 лістапада: БАТЭ — «Вікторыя»**

**28 верасня: БАТЭ — «Барселона»**
**6 снежня: «Барселона» — БАТЭ**

**19 кастрычніка: «Мілан» — БАТЭ**
**1 лістапада: БАТЭ — «Мілан»**



## Спорт сцісла

• **Фін адправіў беларуса ў накаўт.** У нямецкім Эрфурце адбыўся баксёрскі паядынак у суперцяжкой вазе паміж нашым Сяргеем Ляховічам і фінам Робертам Хеленіусам. Апошні адправіў Ляховіча ў накаўт у дзявятым раўндзе. Пасля бою наш баксёр трапіў у рэанімацыю. Гэта быў першы бой беларуса пасля працяглага перапынку. У 2006 годзе Ляховіч быў чэмпіёнам свету па версіі WBO.

• **Кідаем добра.** Беларуская кідальніца ядра Надзея Астапчук заваявала срэбраны медаль на Чэмпіянаце свету ў паўднёвакарэйскім Тэгу. Залатому паказчыку новазеландкі Валеры Велі Астапчук саступіла больш метра.

• **Ёсць каго выгнаць з каманды.** На хакейным Кубку Латвійскай чыгункі мінскае «Дынама» заняло апошняе чацвёртае месца. Галоўны трэнер Марэк Сікора адрэагаваў на гэта: «Ёсць над чым працаваць, напрыклад, каго выгнаць з каманды».

• **Капітан «маладзёжкі» ў чэмпіянаце Бельгіі.** Міхаіл Сівакоў заключыў кантракт з клубам «Зюлтэ-Варэгем». Да гэтага беларус належаў італьянскаму «Кальяры», куды перайшоў з БАТЭ. У «Кальяры» загуляць Міхаілу так і не атрымалася. Спадзяецца, што ў Бельгіі з гэтым будзе лягчэй.

**ЗП**

# Сямёрка хмарачосаў Мінска

**Калі б хоць частка анансаваных мінскімі ўладамі гучных будоўляў высотак была рэалізаваная, сталіцу Беларусі было б не пазнаць.**



«Маяк Мінска».

Да сённяшняга дня будаўніцтва хмарачосаў стрымлівалася папяровымі абмежаваннямі — максімальна дазволеная вышыня пабудовы складала 75 метраў. І пажарныя катэгарычна супраць — інакш яны не маглі гарантаваць бяспеку жыхарам дома.

У 2009 Мінархітэктуры і будаўніцтва дабілася прыняцця новых дакументаў, якія далі дарогу небасягам. Цяпер вышыня будынка не можа перавышаць 200 м, але жылыя дамы ўсё адно будуць удвая ніжэйшыя. Фактычна, гэта каля 30 паверхаў.

Прайшло два гады «архітэктурнай свабоды», але ніводнага (!) здадзенага ў эксплуатацыю будынка вышынёй больш за 100 м так і не з'явілася, а праектаў было заяўлена не менш за дзясятак. Большасць інвестараў не маюць грошай.

«НН» робіць агляд праектаў, што дайшлі хаця б да стадыі выкапанага катлавана. Загадзя адзначым — сярод інвестараў беларусаў няма.

**1. Royal Plaza (Роял Плаза).** Інвестар — «Рубіроз Інтэрнэшнл» (Ліван). Вышыня — 130 м (30 паверхаў). Цяперашні стан — пабудавана 28 паверхаў.

Офісны будынак у пачатку праспекта Пераможцаў будзе першым здадзеным у эксплуатацыю хмарачосам краіны. У 2012-м кампаніі засяляцца ў выкупленыя офісы.

Аўтар праекта — Барыс Школьнікаў, адзін з набліжаных да мінскіх уладаў архітэктараў. Па ўплывовасці з ім можа параўнацца толькі стваральнік Нацыянальнай бібліятэкі і сталічнага чыгуначнага вакзала Віктар Крамарэнка.

**2. «Ветразь».** Інвестар — «Ітэра» (Расія). Вышыня — 132 м (32 паверхі). Ужо збудавана 30 паверхаў. Мяркуецца, што жылы дом на скрыжаванні вуліц Ціміразева, Максіма Танка, Клары Цэткін і Кальварыйскай будзе першай пабудовай у комплексе з 3-4 высотак. Першыя праекты шакавалі кансерватыўнае беларускае грамадства. Гмахі па 50–60 паверхаў абяцалі стаць архітэктурнай дамінантай усяго горада. Але цяпер пазіцыі «Ітэры» на нашым рынку саслабелі, і няма гарантыі, што іх будаўніцтва не скончыцца на «Ветразі».



Royal Plaza.



«Ветразь».

**3. «Мінск-Сіці».** Інвестар — «Ітэра» (Расія). Вышыня невядомая. Цяпер пабудаваныя некалькі «панэлек» на ўскрайку.

«Разынкай комплексу стане першы сапраўдны мінскі хмарачос — вежа ў 80 паверхаў», — пісала прэса ў 2008 г. «Мінск-Сіці» на месцы аэрапорта «Мінск-1» мусіў каштаваць $5 млрд, але такіх грошай у «Ітэры» зараз няма. Лукашэнка не адмаўляецца ад іх паслугаў, бо іншых інвестараў на гарызонце нябачна. Ёсць і іншая прычына: як ужо пісала «НН», «Ітэра» працягвае будаваць каля Драздоў прыватную рэзідэнцыю «Жылы комплекс «Усход».

Пакуль што «Мінск-Сіці» ўсыхае нават на паперы. Хмарачосы на рэндарах зменшыліся ўжо ўдвая, і падаецца, што да Чэмпіянату свету па хакеі-2014 будаўнікі не паспеюць.

**4. «Маяк Мінска».** Інвестар — «Зомекс Інвестмент» (Швейцарыя/Вялікабрытанія). Вышыня — 80 паверхаў (280 м). Праект не менш амбітны, чым «Мінск-Сіці» — офісная вежа на 80 паверхаў са шпілем, які дасягне 280 м. І ў дадатак восем 40-павярховых дамоў па суседству з Нацыянальнай бібліятэкай. Усё разам — на $4 млрд інвестыцый. Але на сёння збудавалі толькі некалькі жылых дамоў на ўскрайку.

Дзяржпрэса піша, што брытанская кампанія «Зомекс Інвестмент» уваходзіць у склад холдынга WorldWide Building group. Вось толькі інтэрнэт нічога не мае пра абодвух. Колькі грошай у таямнічых брытанцаў, ніхто таксама не ведае, вось толькі будаўніцтва будзе весціся на крэдытныя грошы «БПС-банка».

**5. «Футурыс»/«Голд-Сіці».** Інвестар — бізнэсовец Вінсент Петрыла (Вялікабрытанія). Вышыня — 25 паверхаў (103 м). Пакуль іх толькі два. Гісторыя гэтага бізнэс-цэнтра з відам на Усходнія могілкі не проста цьмяная, а нават крымінальная. Яго мусілі будаваць яшчэ ў 2008 г. як першы беларускі хмарачос пад назвай «Голд-Сіці», а пачалі толькі зараз — як «Футурыс». Беларускія партнёры брытанскага бізнэсоўца патрабавалі ад яго дадатковыя 3 млн еўра, нібыта для хабару чыноўнікам. Іх затрымалі, будаўніцтва надоўга адклалася.

«Футурыс» — праект згаданага вышэй Віктара Крамарэнкі. У двух словах — шмат шкла і залаты шар, які архітэктарам называецца «крыштальная сфера». Петрыла спадзяецца ўкласціся ўсяго ў 50 млн еўра.

Пералічаныя вышэй комплексы ўжо ўзводзяцца, у той ці іншай ступені. Некаторыя іншыя пакуль маюць толькі закладзеную капсулу ці ўвогуле сумную яму пасярод будоўлі.

**6. Perspolis (ПерсПоліс).** Інвестар — Semega (Іран). Вышыня — 39 паверхаў (160 м). Працы не пачыналіся. Праект холдынга па турызму і культурнай спадчыне Ірана Semega выдзяляецца гіганцкімі мусульманскімі ўзорамі на ўсю вышыню будынка. Сімвалічная капсула на месцы будаўніцтва 5-зоркавага гатэля была закладзеная на Нямізе ў красавіку. Абʼём інвестыцый — $150 млн.

**7. «Сафія».** Інвестар — «Кравіра» (Сірыя). Вышыня — 50 паверхаў (150 м). Працы не пачыналіся. Бізнэс-цэнтр нібыта будзе наступным крокам сірыйскай «Кравіры» пасля 15-павярховага гандлёвага цэнтра і 30-павярховага гатэля. Усе яны могуць паўстаць на вуліцы Клары Цэткін, але пакуль што гэта толькі планы.

**Ягор Марціновіч**

# Пісьменнікі-лукашэнкаўцы: Пара падысці да Ліпковіча з усёй строгасцю закона

**Сябры праўладнага Саюза пісьменнікаў Беларусі падтрымалі свайго старшыню Мікалая Чаргінца адкрытым лістом.**

Ліст называецца «Творцы і вандалы», напісаны на расійскай мове. Яго падпісалі пісьменнікі і літаратуразнаўцы Уладзімір Гніламёдаў, Алесь Савіцкі, Уладзімір Карызна, Алесь Марціновіч, Георгій Марчук, Мікола Мятліцкі, Генадзь Пашкоў, Васіль Шырко.

У першай частцы ліста падпісанты адзначаюць безумоўную вартасць скандальнага рамана Чаргінца. «Ёсць творы, якія становяцца значнымі не толькі ў творчасці таго ці іншага пісьменніка, але адначасова з'яўляюцца знакавымі для ўсёй літаратуры. Не ў апошнюю чаргу гэта датычыць рамана Мікалая Чаргінца «Тайны Авальнага кабінета», — пішацца ў звароце.

«Добра ведаючы законы жанра, Чаргінец праўдзіва і ўсебакова, псіхалагічна пераканаўча раскрыў вобраз «змагара за правы чалавека», а ў сапраўднасці — чалавека, які не абцяжараны высокімі маральнымі якасцямі».

Эратычныя моманты ў кнізе пісьменнікі лічаць неабходнымі, бо яны «дапамагаюць лепш раскрываць язвы даўно прагнілага грамадства». Тут падпісанты згадваюць творы Заля, Мапасана, Шолахава, параўноўваючы іх з Чаргінцом.

Напрыканцы ідзе асуджэнне блогера Яўгена Ліпковіча, які, змагаючыся за маральнасць, спаліў кнігі Чаргінца. «Ліпковіч і іжэ падобныя забываюць аб элементарных нормах прыстойнасці. (...) Ладзячы пажар з кніг у Севастопальскім парку, ён не задумваецца над тым, што сваімі дзеяннямі паўтарае ўсё тое, што рабілі нацысты ў 30-ыя гады мінулага стагоддзя».

Сябры Саюза пісьменнікаў робяць наступны вывад. «У судовым парадку разгляданая адміністрацыйная справа Чаргінца па абароне гонару і годнасці. Судом вынесеная пастанова, згодна з якой Ліпковіч адпаведным чынам пакараны. Аднак, відаць, вывадаў ён не зрабіў ды і не спрабуе гэта зрабіць. Ці не пара падысці да Ліпковіча з усёй строгасцю закона?»

**Зміцер Панкавец**

### Ліпковіч: «Параўноўваць Чаргінца з Мапасанам драбнавата»

У інтэрв'ю «Беласту» блогер заявіў: «Такія лісты — вяртанне ў 1937 год, калі пасля іх публікацыі расстрэльвалі ворагаў народа. Параўноўваць Чаргінца з Мапасанам драбнавата. Чаму не Камю, чаму не хтосьці з філосафаў? Паводле такога прынцыпу, мяне можна параўнаць з Пастарнакам ці Салжаніцыным, хоць мне да іх бясконца далёка».



### Гігін і Мусіенка прынятыя ў чаргінцоўскі Саюз пісьменнікаў

Прынятыя ў арганізацыю яны секцыяй публіцыстыкі.

Галоўны рэдактар часопіса «Беларуская думка» Вадзім Гігін — аўтар кнігі «Великая Отечественная война» (2006), адзін з аўтараў кнігі «90 славных лет» (2008).

Сяргей Мусіенка, дырэктар аналітычнага цэнтра EcooM, — адзін з аўтараў-складальнікаў кнігі «Следователи и частные детективы» (1996), разам з палітолагам Сяргеем Кара-Мурзой выдаў кнігу «Куда идём? Беларусь, Россия, Украина» (2009), аўтар зборніка «Постсоветское пространство в миропорядке XXI века» (2011).

Абодва вызначыліся тым, што выступілі з прапановай забараніць дзеячам беларускай апазіцыі выязджаць за мяжу. Саюз пісьменнікаў Беларусі паўстаў у 2005 г. на чале з генералам Мікалаем Чаргінцом. Навастворная арганізацыя выказала сваю лаяльнасць да беларускіх уладаў. Саюз карыстаецца падтрымкай Лукашэнкі і фінансуецца з дзяржбюджэту.

**КМ**

# З жалезам у крыві

**Чатыры гады. Столькі Павел Севярынец пабыў на волі з моманту вызвалення з мінулай «хіміі». За гэты час ягонымі намаганнямі паўстала Беларуская хрысціянская дэмакратыя. Зарэгістраваць партыю не ўдалося, але кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах вылучылі. За ўдзел у паслявыбарчых пратэстах Севярынец атрымаў тры гады «абмежавання волі». Адзіны, каму ў пакаранне абралі менавіта «хімію». Ужо другі раз палітыка выпрабоўваюць такім чынам. Рэпартаж з Купліна.**



У зняволенні Севярынец застаецца аптымістам, ён шмат жартуе і смяецца.

## Ад расійскай мяжы да польскай

Спачатку Паўлу абяцалі, што сядзець ён будзе на малой радзіме, на Віцебшчыне. Як было ў 2005 годзе, калі яго накіравалі ў глухую вёсачку Малое Сітна на мяжы з Расіяй, дзе нават не брала мабільная сувязь. Там Севярынец працаваў у лесе.

Цяпер месца высылкі знаходзіцца ля мяжы польскай — вёска Куплін (Пружаншчына). Гэта за 3 км ад райцэнтра, як ехаць на Ружаны. Можна і пешкі.

На ўездзе ў былы вайсковы гарадок стаіць кавальская майстэрня. Шыльда аформлена на беларускай мове. Валодае ёй Алесь Янушкевіч. Севярынец смяецца: «Пакуль беспартыйны». У загарадзі пасвіцца атара авечак. Рэдкая з'ява для цяперашняй Беларусі. Жыццё ў вёсачцы ёсць.

Каля бюста правадыра Кастрычніцкай рэвалюцыі трэба завярнуць налева. За плотам пачынаецца фермерская гаспадарка «Бардо».

## «Бардо» ў вайсковай часці

Калі Севярынца накіроўвалі на Пружаншчыну, то многія ўздыхнулі з палёгкай — гэта ўсё ж Заходняя Беларусь. На справе ж Севярынец апынуўся на востраве Савецкага Саюза. Праўда, савецкім толькі архітэктурна.

Ён працуе на тэрыторыі былой вайсковай часці. «Тут і цяпер усё засакрэчанае, нават надоі кароваў», — смяецца Павел. Ад вайскоўцаў засталіся і многія памяшканні, дзе цяпер месціцца мехдвор.

Усе дзверы акуратна пафарбаваныя ў сіні колер. За адной з такіх і працуе Севярынец кладаўшчыком. Гэта склад. У працу палітвязня ўваходзіць выдача розных запчастак. У Паўла ўсё строга. Поўны ўлік кожнаму выдадзенаму шурупу.

Гаспадарка «Бардо» спецыялізуецца на вырошчванні гародніны. Але ёсць і дадатак з продажам запчастак, функцыі колішняй «Сельгастэхнікі». «Да працы пачаў рыхтавацца яшчэ ў «амерыканцы», калі сядзеў разам з галоўным інжынерам МТЗ. Там і пачаў усё даведвацца пра шасцяронкі», — іранізуе Севярынец.

**Павел Севярынец**

нарадзіўся 30 снежня 1976 у Барані (Аршаншчына) у сям'і настаўніцы і журналіста. Скончыў геаграфічны факультэт БДУ. Быў адным з заснавальнікаў «Маладога фронту». У 1997 узначаліў арганізацыю. Адзін з самых актыўных удзельнікаў вулічных акцый. Быў ініцыятарам абароны Курапатаў. У 2004 абвінавачаны ў арганізацыі акцый пратэсту супраць адмены абмежавання на колькасць тэрмінаў для прэзідэнта. Асуджаны на тры гады «хіміі». Пакаранне адбываў у вёсцы Малое Сітна (Полацкі раён). Заснавальнік партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя. За кнігу пісем з першай высылкі «Лісты з лесу», якія публікаваліся ў «Нашай Ніве», Севярынцу была прысуджаная літаратурная прэмія імя Алеся Адамовіча. Праваслаўны.

## Трэці талковы «хімік»

На тэрыторыі гаспадаркі доўга незаўважанымі хадзіць не ўдаецца. «Хто такія? Адкуль?» Кажам, што журналісты з Мінска, з інспекцыяй, жартуем. «А вы тут начальнік?» — пытаюся. «Я гаспадар», — адказвае сівагаловы мужчына. Гэта Анатоль Тарасевіч, уладальнік «Бардо».

Праз імгненне ягоная незадаволенасць змяняецца на прыязнасць. «Я ж не супраць, здымайце, толькі трэ было ў мяне запытацца». Рукі ў Тарасевіча ўсе ў татуіроўках, напамін пра турэмнае мінулае.

Фермер хваліць Севярынца. «Праз мяне прайшло трыста «хімікаў». Паша з іх толькі трэці талковы». Апроч Севярынца, у гаспадарцы працуе цяпер яшчэ шасцёра «хімікаў». Праўда, яны ў полі, а не пры двары. Большасць рабочых ездзіць з Пружанаў, возяць іх на працу адмысловым аўтобусам. Людзей вабяць у фермера вялікія заробкі.

## Два начальнікі

Слова за слова, і Севярынец нагадвае, што сёння 25 жніўня — 20 гадоў з моманту надання Дэкларацыі аб суверэнітэце дзяржаўнага статуса. «Незалежныя мы, але мовы сваёй не ведаем», — ці падыгрывае Севярынцу, ці сапраўды шчыра кажа Тарасевіч. Ён шчоўкае запальнічкай, прыкурвае тонкія цыгарэты Vogue Slim у фіялетавым пачку. На шыі ў яго залаты ланцужок.

Побач у машыну грузяць бульбу і капусту, што пойдуць на продаж у Мінск. Гародніна з гаспадаркі «Бардо» прадаецца ў гіпермаркетах «Бігз», «Гіпа» і крамах «Кірылюк-маркет». Тарасевіч кажа, што ў сувязі з крызісам працаваць цяжка. «Аддаём за капейкі, што прадаваць, што цялятам скарміць — няма розніцы. Прадаём толькі, каб сувязі не згубіць», — кажа Тарасевіч. Сапраўды, перад загонамі з цялятамі стаяць скрыні з капустай. Гаспадарка церпіць страты ад таго, што ў Расіі сёлета добры ўраджай гародніны, і туды цяжка экспартаваць.

Фатаграфавацца Анатоль Уладзіміравіч рашуча адмаўляецца. «Я ж чалавек непублічны, нават ніколі не ўдзельнічаю ў конкурсах кшталту «Фермер года». І расказвае, што ён увогуле не ўласнік, а ўпраўляючы. Уласніцай жа лічыцца ягоная жонка.

У Севярынца а 17-й вечара сканчаецца працоўны дзень. У гэты момант на мехдвор на дабітай бэзавай «сямёрцы» падлятае начальнік Паўлавай камендатуры Юрый Бакаеў. «Ну, Юрый Мікалаевіч, я пайду?» — пытаецца яго Севярынец. «Давай, вапросаў няма», — адказвае начальнік.

Севярынец кажа, што начальнік камендатуры прыехаў да яго на працу ўпершыню. Магчыма, пра наша з'яўленне ў «Бардо» пайшоў сігнал. У такім выпадку трэба адзначыць, што начальнік з'явіўся за 15 хвілін.

## У афіцэрскай казарме

Шлях з працы да камендатуры кароткі — усяго дзесяць хвілін лясной сцежкай. «Лес мне тут падабаецца: светлы, тут і бяроза, і дуб, і ясень, не цёмны, як на Віцебшчыне, дзе елка ды хмызы», — кажа Павел.

Па дарозе нікуды збочваць яму нельга дый няма куды. Трэба адразу ісці ў камендатуру, дзе запісацца аб прыбыцці. Камендатура ўяўляе сабой двухпавярховы цагляны будынак з кратамі на вокнах. Павел мяркуе, што раней тут была афіцэрская казарма.

Севярынца адпускаюць паразмаўляць з намі ў альтанку. Дзве такія стаяць перад камендатурай. За альтанкамі вядзецца відэаназіранне. Адну выкарыстоўваюць для наведвальнікаў, у іншай паркуюць ровары. Тут іх нямала. Большасць «хімікаў» працуюць у Пружанах. У Севярынца свой ровар таксама маец-



Былая афіцэрская казарма стала камендатурай для «хімікаў».




**Да Купліна можна дабрацца чыгункай Мінск—Брэст. Прыпынак — Аранчыцы. Альбо аўтобусам да Пружан.**

ца — падарылі сябры па БХД.

Яшчэ побач з камендатурай ёсць турнікі. Можна падцягвацца, цягаць гіры. Праз дарогу пляцоўка для гульні ў валейбол. Праўда, Павел пакуль не бачыў тых, хто б ёй карыстаўся. У памяшканні можна пагуляць у настольны тэніс.

### Ноўтбук нельга, мабільнік — можна

Пакуль ад адсутнасці ўвагі Севярынец не пакутуе. За два тыдні ў яго пабывала дэлегацый дзесяць. Прыязджаюць хадэкі з Кобрына, з Мінска, ды і мясцовыя падцягваюцца. Прадуктаў з агарода навёз селянін Анатоль Сахаруша з вёскі Малеч, прывозіў мёд пчаляр Мікола Папека з Лінава. Севярынец кажа, што яшчэ ні разу нічога не купляў у аўталаўцы, якая двойчы на тыдзень прыязджае да «хімікаў» — усё прывозяць людзі.

Скардзіцца хіба што на мясцовую ваду. «Кепская вада, жалезістая. Буду цяпер з жалезам у крыві», — кажа Павел. Трымаць у камендатуры ноўтбук не дазваляюць, затое можна мабільны тэлефон. Хаця б нешта.

Перад тым як пачаць гутарку, міліцыянты просяць прайсці з імі ў будынак, каб напісаць заяву на імя начальніка, каб дазволіў фотаздымкі, а таксама выкарыстанне дыктафона. Міліцыянты ветлівыя, паказваюць Крымінальны кодэкс — маўляў, гэта не іхняя прыхамаць, а норма заканадаўства. Уваход у камендатуру адкрываюць вялізныя кратаваныя дзверы.

Ва ўсім іншым памяшканне нагадвае студэнцкі інтэрнат. Толькі вось час ад часу гучыць пранізлівы гук званка. «Калі адзін раз, то выклікаюць да сябе дзяжурнага першага паверха, калі два — то другога».

### Чатыры гадзіны на лазню і царкву

У адным пакоі з Севярынцам жывуць яшчэ два хлопцы. Адзін з іх сядзіць за бойкі. За што другі — Павел не ведае. Хлопец галасаваў на выбарах за Саннікава, слухае NRM. Увогуле, як высветліў Севярынец, многія мясцовыя на апошніх выбарах аддалі голас менавіта за Саннікава.

Праблема «максімкі» ў Купліне стаіць не так востра, як у Малым Сітне, але тут ад яе таксама нікуды не дзенешся. Пакуль сядзелі ў альтанцы, бачылі аднаго чалавека, які ледзь трымаўся на нагах.

Чатыры гадзіны на тыдзень Павел мае вольны час. Яго скарыстоўвае для наведвання лазні і царквы ў Пружанах. На самой «хіміі» бойлер зламаны. «Буду дабівацца, каб адрамантавалі», — кажа ён. «Палітычныя» ведаюць свае правы.

### З мянушкай Пісьменнік

Севярынец стаў прыхаджанінам Спаса-Праабражэнскага сабора Пружан. «Аказалася, што з айцом Сергіем я перамаўляўся «Вконтакте» яшчэ да таго, як трапіў у Пружаны», — расказвае Севярынец. Увогуле, Павел у захапленні ад мясцовага грамадства: доўга пералічвае нам сустрэтых інтэлігентаў, прадпрымальнікаў, фермераў. Ён радуецца, што паўсюль сустракае вальнадумцаў, прычым гэта людзі, якія моцна стаяць на нагах. Раней лідарам апазіцыі ў Пружанах быў Уладзімір Радзівончык з АГП. Калі яго звольнілі з працы, ён вымушаны быў шукаць працу за мяжой. Цяпер у горадзе ёсць суполкі Моладзі БНФ і Хрысціянскай Дэмакратыі.

Вечарамі Павел піша новы раман. «Сам для сябе вызначыў, што гэты час нельга губляць, трэба працаваць». У яго нават мянушка ў камендатуры адпаведная — Пісьменнік.

Праз нейкі час да альтанкі падыходзіць маёр Валерый Лепін. Пытаецца, ці не замінае. Міліцыянту хочацца паразмаўляць. Кажа, што ў свой час хацеў стаць гісторыкам, але выбраў урэшце міліцэйскую акадэмію: «Гэта ў мяне сямейнае».

«Праца як праца, можа, не самая лепшая, але дае пэўныя гарантыі», — кажа міліцыянт. Лепін збіваецца на тэмы маральнага стану грамадства. Міліцыянт уражвае сваёй эрудыцыяй, але найперш — складанасцю мыслення. «Моладзь не хоча працаваць, адвучаная. Затое хоча жыць прыгожа, калі бачыць па тэлевізары, дзесьці яшчэ прыклады раскошы. П'юць піва, здзяйсняюць злачынствы», — ставячы дыягназ, тым не менш, Лепін не адважваецца задацца пытаннем аб прычынах такога стану.



Кавальня з беларускамоўнай шыльдай стаіць на ўездзе ў Куплін.



Севярынец: «Палову шляху да свабоды мы ўжо прайшлі».

Севярынец расказвае, што ў Купліне вялікі голад на гістарычную літаратуру.



Севярынец на працоўным месцы, у ягоныя абавязкі ўваходзіць улік і выдача запчастак.

### Хрысціянскага і беларускага болей

«У Малым Сітне людзі былі поўныя безнадзейнасці, пустата ў вачах, млявыя. Тут усё ж не так, тут многія людзі, нават асуджаныя, не згубілі цікавасць да жыцця, ім нешта трэба. Хрысціянскага і беларускага ў Купліне непараўнальна болей».

«Шчаслівы, што Госпад даў магчымасць пажыць на Берасцейшчыне. З Лунінеччыны мая мама», — і Павел доўгія хвіліны пералічвае імёны славутых ураджэнцаў гэтых мясцін: дырыжор Шырма, трэнер Карполь, спевакі Забэйда-Суміцкі і Макарэвіч. Урэшце — ізноў смяецца — правакатар Азэф і банкір Пракаповіч.

Севярынец не толькі ўвесь час жартуе, але і цудоўна выглядае. Павел нечым нагадвае ідэальнага амерыканскага палітыка: белазубая ўсмешка, ні грама лішняй вагі. І бясконцы аптымізм: «20 гадоў як Беларусь незалежная. Гэта значыць, з сарака гадоў у пустыні дваццаць мы ўжо адблукалі».

**Зміцер Панкавец, Андрэй Дынько,**
**Куплін — Мінск**
**Фота Сяргея Гудзіліна.**

# Уваскрасенне. Косаўскі палац паўстае з нябыту

І верасня завяршаецца першая частка рэканструкцыі палаца Пуслоўскіх. Тут будзе гатэльна-турыстычны комплекс.

Першая чарга рэканструкцыі палаца Пуслоўскіх У Косаве (Івацэвіцкі раён) прадугледжвае аднаўленне крокваў, перакрыццяў і даху. Падрадчыкам выступае «Брэстрэстаўрацыя».

Тут будзе гатэльна-турыстычны комплекс. У планах таксама аднаўленне ландшафтнага парку. Скончыць працы плануюць у 2015.

Прэтэнцыёзны Косаўскі палац у гатычным стылі быў закладзены ў 1838 г. графам Казімірам Пуслоўскім і яго сынам Вандалінам. Апошні і дабудоўваў палац. Аўтар — варшаўскі архітэктар Францішак Яшчалд. Яго ідэі ўвасобілі архітэктар Уладзіслаў Марконі і дэкаратар Аляксандр Жмурка. У палацы было больш за сотню памяшканняў, велічныя залы, у адной з якіх падлога была з патоўчанага шкла, а пад ёй месціўся гігантскі акварыум з экзатычнымі рыбамі.

Вакол палаца заклалі ландшафтны парк, захаваўшы пры гэтым стары парк Касцюшкаў. Лічыцца, што менавіта Тадэвушу Касцюшку Пуслоўскія і прысвяцілі пабудову палаца, узяўшы шэфства за ягоным родным домам у суседняй Мерачоўшчыне, на якую з палаца адкрываецца цудоўны від.

Фактычна, з тых часоў сядзіба Касцюшкаў і палац Пуслоўскіх і ўтварылі ўнікальны архітэктурны комплекс, які перажыў за апошнія 170 год не адну ліхую часіну. Пасля задушэння паўстання 1863 г. палац перайшоў да расійскіх магнатаў. У Першую сусветную вайну палац разрабавалі і часткова разбурылі. Пры палякох тут месціліся адміністрацыйныя ўстановы. Напрыканцы Другой сусветнай савецкія партызаны спалілі і дом Касцюшкі, і палац. Пасля вайны тут усё парасло лесам.

У пачатку 80-х палац паспрабаваў уратаваць вядучы спецыяліст упраўлення культуры Брэсцкага аблвыканкама Леанід Несцярчук, які дзеля гэтага звярнуўся ў Саўмін БССР.

**СП**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

# «Хачу атрымаць кампенсацыю за сапсаваны адпачынак»

Мінскі журналіст збіраецца судзіцца з адміністрацыяй аднаго з нарачанскіх санаторыяў.

Месяц таму «Наша Ніва» пісала пра рамонт у санаторыі на Нарачы ў самы разгар сезона (глядзі артыкул «Адпачынак па-беларуску: заплаці 3 мільёны і слухай візгат «балгаркі» ў №29 ад 3 жніўня). Вярнуўшыся з адпачынку, герой матэрыяла патлумачыў карэспандэнту «НН», навошта ўвязаўся ў канфлікт з адміністрацыяй санаторыя.

Нашым героем апынуўся мінскі журналіст Руслан Ешчанка, вядомы многім слухачам па працы на радыёстанцыях «Мір» і «Юністар». Ён не першы раз адпачывае на Нарачы. «Я працую з гукам, таму мне неабходна адпачываць у цішыні», — кажа ён. Але замест спеваў птушак яму давялося слухаць візгат бензарэзаў і гул цяжкай будаўнічай тэхнікі. Журналіст расказвае, што неадноўчы патрабаваў ад адміністрацыі спыніць шумныя працы пад вокнамі санаторыя і стварыць належныя ўмовы для адпачынку. І ўсё безвынікова, пакуль не ўмяшалася прэса.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Пасля публікацыі ў «НН» і сюжэта на «Белсаце» плітку побач з санаторыем перасталі пілаваць. Але перамога была часовай і частковай: будаўнічая тэхніка нікуды не дзелася. Руслан пайшоў да дырэктара, але той, па яго словах, прапанаваў месца на турбазе. «У мяне склалася ўражанне, што гэта не мне перашкаджаюць адпачываць, а я ім ствараю нязручнасці. Дырэктар нават паскардзіўся на тое, як яму складана цяпер знайсці будматэрыялы».

«Я працую з гукам, таму мне неабходна адпачываць у цішыні».

Не вытрымаўшы, Руслан у пісьмовай форме запатрабаваў ад адміністрацыі тлумачэнняў. Адказ прыйшоў напрыканцы жніўня. У ім гаворыцца, што працы ў санаторыі ідуць згодна Дзяржаўнай праграмы развіцця курортнай зоны Нарачанскага рэгіёна на 2011—2015 гг. І вядуцца яны на вуліцы, у 100 м ад жылога корпуса. Што адміністрацыя неаднаразова прапаноўвала сваму кліенту разгледзець пытанне перасялення для адпачынку ў катэдж больш высокага разраду без даплаты, але ён адмовіўся. Руслан кажа, што насамрэч дырэктар Вадзім Пракудзін зрабіў такую прапанову толькі аднойчы. У адказе гаворыцца таксама, што Мядзельскі раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі рэгулярна ладзіць кантроль за рамонтнымі працамі. Асобна падкрэсліваецца, што адміністрацыя прыкладае ўсе намаганні для поўнага задавальнення просьбаў і патрабаванняў кліентаў.

Руслана адказ дырэктара «Нарачы» абурыў. «Гэта адпіска. Ад мяне як ад надакучлівай мухі адмахваліся ў санаторыі. І зараз, у гэтым лісце, адмахваюцца ізноў». Ён настроены рашуча — аж да суда, калі спатрэбіцца. «Я хачу атрымаць кампенсацыю за сапсаваны адпачынак. Мяне ніхто не папярэдзіў пра рамонт», — кажа журналіст. Ён хоча ўласным прыкладам давесці, што сітуацыю трэба мяняць, і пачынаць трэба з сябе.

«Пакуль мы маўчым, заслугоўваем грэблівага стаўлення да сябе. Падобныя рэчы адбываюцца паўсюль, дзе начальнікі — ад самага маленькага, да самага галоўнага — лічаць сябе вышэй за «простага» чалавека. Мы перасталі бараніць свае чалавечыя правы, а часта пра іх нават не ведаем». Журналіст прыгадвае, як колькі гадоў таму трапіў у вельмі падобную сітуацыю ў іншым беларускім санаторыі. Тады ён сцярпеў, хоць адпачынак таксама быў безнадзейна сапсаваны. Цяпер ён упэўнены, што дарма змаўчаў.

**Сямён Печанко**

**«Мяне загадзя папярэдзілі пра рамонт»**

Бард Тацяна Беланогая ў жніўні таксама адпачывала на Нарачы. У санаторый «Прыазёрны» яна прыехала напрыканцы месяца. Яна кажа, што яе загадзя папярэдзілі пра тое, што ў санаторыі адбываецца рамонт. Акрамя таго, ужо на месцы яна пабачыла на тэрыторыі «Прыазёрнага» абвесткі, у якіх адміністрацыя прыносіла прабачэнні гасцям за вымушаныя нязручнасці з-за рамонту.

Можна дапусціць, што зроблена гэта было пасля падзеяў у «Нарачы». Прынамсі, Руслан Ешчанка сцвярджае, што перад ад'ездам у Мінск наведваўся ў «Прыазёрны». Рамонт там бачыў, а вось цыдулак з прабачэннямі не заўважыў.

# У Беларусі зноў не працавалі банкаматы




Трэці раз за апошнія паўгода.

26 жніўня ўвечары ў краіне перасталі працаваць банкаматы і касавыя тэрміналы ў крамах. У інтэрнэце адразу ж папаўзлі чуткі пра таямнічыя «змены ў сістэме», пасля якіх ад панядзелка можна будзе зняць толькі 50 тысяч за дзень.

У Банкаўскім працэсінгавым цэнтры, які адказвае за банкаматы, спачатку казалі, што няма прычын для хвалявання і ўсе карткі працуюць. Пазней дыспетчарка прынесла прабачэнні за «тое, што адбываецца», але не сказала, што канкрэтна мае на ўвазе. «Гэта банкаўская таямніца».

Позна ўвечары некаторыя банкаматы пачалі працаваць, але вельмі павольна. У рэгіёнах іх праца аднаўлялася яшчэ марудней. Афіцыйных тлумачэнняў давялося чакаць да панядзелка.

Як стала вядома «НН», у пятніцу адбыўся збой у працы — згубілася сувязь з банкамі.

«Гэта быў не запланаваны збой, — патлумачылі ў працэсінгавым цэнтры. — Звычайна такая сітуацыя бывае толькі ў выпадку, калі праводзяцца прафілактычныя працы. У пятніцу нічога такога не праводзілася. Гэта была тэхнічная праблема».

Што цікава, у мінулы раз такая праблема ўзнікла таксама ў апошнюю пятніцу месяца — 29 ліпеня. Тады, праўда, доступ да безнаяўных грошай адсутнічаў толькі паўгадзіны.

Нармальна працавалі ў пятніцу толькі тыя банкі, якія не адносяцца да Беларускага працэсінгавага цэнтра.

Папярэдні буйны збой адбыўся 24 сакавіка — тады банкаматы і інфакіёскі не працавалі цягам некалькіх гадзінаў. Прычынай быў усё той жа тэхнічны збой. Інфармацыю пра гэта тады не хавалі.

**Юрась Ускоў**

# Генадзь Бураўкін: «Усе ведалі, што я «кадр» Пятра Машэрава»

Паэту Генадзю Бураўкіну 28 жніўня споўнілася 75 гадоў. Чым не нагода для размовы пра яго багатую творчасць? Але з адным з «зуброў» беларускай літаратуры мы гутарылі пра іншае — пра не менш багатае на падзеі жыццё. У тым ліку пра тое, які «грэх» быў за ім у сувязі з іменем Быкава, чаму на яго толькі ў ЦК КПСС тройчы пісалі даносы і як яго падвёў Вячаслаў Кебіч.



PHOTO.BYMEDIA.NET

**Генадзь Бураўкін**

нар. 28 жніўня 1936 у вёсцы Шуляціна Расонскага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі філфака БДУ. У 1972—1978 быў галоўным рэдактарам часопіса «Маладосць», у 1978—1990 — старшыня Дзяржкамітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні. Быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР, старшынёй ТБМ, пастаянным прадстаўніком Беларусі ў ААН (1990—1994), намеснікам міністра культуры і друку. Аўтар многіх кніг паэзіі. Аўтар папулярных эстрадных песень. У нашыя дні на яго словы запісаны адзін з музычных альбомаў Зміцера Вайцюшкевіча — «Лірыка». Укладальнік першай кнігі ўспамінаў пра Васіля Быкава — «Наш Быкаў». А пад «Калыханку» Бураўкіна маленькія беларусы засынаюць ужо больш за дваццаць гадоў.

**– Генадзь Мікалаевіч, чым Вам запомніліся гады фашысцкай акупацыі — гады Вашага дзяцінства?**

– Жылі мы на тэрыторыі Расонскага раёна. Бацька пайшоў на фронт, а мы з мамай засталіся. У наваколлі ведалі, што бацька — камуніст, і немцы маглі нас расстраляць. Але вайна між іншага паказала і людскую дабрыню, і беларускі характар: нас ніхто не прадаў.

Найбольш запомнілася з вайны страшнае. Ужо напрыканцы акупацыі ў вёску прыехалі карнікі з паліцаямі, сагналі жыхароў у лазню і забілі яе цвікамі. Нас павінны былі спаліць. І раптам дзверы з таго боку ўзламалі, а ў іх стаяў сівы немец і махаў нам рукамі. Мы ўскочылі і кінуліся ў лес. Гэта быў урок на ўсё жыццё: і сярод ворагаў ёсць людзі...

Сям'і нашай пашчасціла: бацька выжыў, вярнуўся, хоць і інвалідам.

**– Вядома, што ў Вас былі добрыя адносіны з Машэравым. Чым растлумачыце яго добрае стаўленне да Вас?**

– Па-першае, мы з ім землякі: перад вайной ён працаваў у Расонскім раёне. Яму, відаць, было прыемна, што я адтуль. Па-другое, думаю, яму ў нечым падабаўся мой характар, магчыма, ён бачыў ува мне сябе маладога. Я не баяўся выступаць, гаварыў адкрыта.

Дастаткова доўга я папрацаваў каля высокіх чыноўнікаў і скажу, што разумнаму кіраўніку халуі не падабаюцца, а яршыстыя людзі падабаюцца, яны хочуць перацягнуць іх на свой бок.

**– Які ў Вас, вядомага паэта, адміністратара, быў матэрыяльны дастатак за савецкім часам?**

– Не сказаць, што ён быў вялікім, але мне хапала. Пры пераходзе з «Праўды» ў «Маладосць» я страчваў у заробку, і Пятро Міронавіч (відаць, каб «кампенсаваць» страты) загадаў выдзеліць рэдакцыі часопіса службовы аўтамабіль — у іншых гэтага не было.

А калі стаў на чале Дзяржтэлерадыё, то зарплата стала адпаведна міністэрскай, была і персанальная машына.

**– Не сумуеце па часах, калі беларуская літаратура выдавалася агромістымі накладамі?**

– Не проста сумую, а трывожуся і сённяшняй сітуацыі не разумею. Хаця адкуль быць накладам, калі дзеці не аваладваюць мовай: калі ім не выкладаюць беларускую літаратуру ў патрэбным аб'ёме і тую, якой мы ганарымся? Нават у гады вайны беларускія кніжкі выходзілі большым накладам, чым у нашы дні!..

Тое, што адбываецца з накладамі, хвалюе мяне нават не з фінансавага боку. Калі людзі чытаюць пустыкі, дзе, акрамя крыві, забойстваў і, даруйце, дзяўчатак лёгкіх паводзінаў, нічога няма — гэта небяспека духоўнай дэградацыі.

**– Вернемся да Вашага прызначэння на Дзяржтэлерадыё. Менавіта пры Вас, наколькі я разумею, беларускае тэлебачанне пачало рабіцца беларускім.**

– Калі я прыйшоў на Дзяржтэлерадыё, там было засілле рускай мовы, асабліва на тэлебачанні. Я стараўся зрабіць усё, каб беларускай мовы было ўсё больш і больш. Ажыццяўляць гэта было няпроста. Сёння па-ўсякаму ўзгадваюць тыя гады, але я скажу, што адчуваў падтрымку Машэрава. Усе ведалі, што я «кадр» Пятра Міронавіча. Ён казаў: «Генадзь, рабі, як лічыш патрэбным».

У той час было вядома, што, як толькі Машэраў прылюдна выступіць у абарону беларускай мовы, яму тут жа будзе прышпілены ярлык нацыяналіста і яго заменяць.

**– Што Вы маеце на ўвазе, калі кажаце, што пашырэць ужыванне беларускай мовы было няпроста?**

– На мяне пісалі даносы. Толькі ў ЦК КПСС — тры разы. Хто — не ведаю. Але справа не ў тым, хто пісаў, а ў тым, што гэтыя лісты сур'ёзна разглядаліся. Па адным з іх быў закрыты партыйны сход калектыву Дзяржтэлерадыё. Я ўдзячны калегам: пасля зачытання даносу ніводзін не падтрымаў ананіма. Прызнаюся шчыра, усхваляваны быў ледзь не да слёз.

А вось цяперашнія кіраўнікі тэлебачання беларускую мову дабіваюць. Той жа спартовы каментатар Навіцкі, якога я браў на працу, можа хораша весці рэпартажы па-беларуску. Але не робіць гэтага. Знычыць, яму сказалі, што гэта не трэба.

**– Чаму ў савецкія часы беларускае партыйнае кіраўніцтва праводзіла палітыку русіфікацыі?**

– Я думаю, русіфікацыя ішла не ад кіраўнікоў Беларусі. Перш за ўсё і больш за ўсё я ўскладаю віну на нацыянальную палітыку КПСС, на Крэмль. Гэта яны прымушалі да русіфікацыі, гэта яны націсkалі...

Я не надта люблю ўжываць слова «народ». Але калі народ не зразумее, што такое мова, то хай рыхтуецца да таго, што спярша яго будуць абсмейваць, потым ім будуць пагарджаць, а пасля ён проста знікне. Хочацца гэтага народу? Ну што ж...

**– У 1990-м Вы сталі пастаянным прадстаўніком Беларусі ў ААН. Што для Вас значыла гэтае прызначэнне?**

–...Кіраўніцтву рэспублікі ў тыя гады мая дзейнасць і пазіцыя на пасадзе кіраўніка тэлебачання і радыё не падабаліся. Нягледзячы на перабудову, цэкісты лічылі, што на тэлебачанні павінна паказвацца адна пазіцыя і слова Пазняку, напрыклад, даваць ні ў якім разе нельга.

...Зараз удзячны лёсу за гэтую «высылку», бо атрымалася, што я стаў першым прадстаўніком незалежнай Беларусі пры ААН. І калектыў у нас у Нью-Ёрку быў цудоўным. Сённяшні міністр замежных спраў Мартынаў быў маім намеснікам. Былы міністр Хвастоў працаваў другім сакратаром.

**– На якую работу Вас клікалі з Нью-Ёрка?**

– Тагачасны старшыня Савета міністраў Кебіч клікаў мяне на пасаду Міністра культуры. Калі я распавёў Васілю Быкаву пра гэта, ён сказаў: Генадзь, наіўны ты чалавек, цябе не прызначылі не таму, што лічаць цябе недастаткова верным — яны тваёй беларушчыны баяцца, таму ніколі цябе не пусцяць на той узровень, дзе ты зможаш прымаць сур'ёзныя рашэнні. Для мяне беларушчына — святое...

**– Калі ўявіць, што Вячаслаў Кебіч і яго ўрад засталіся б пасля 1994-га, то магла б Беларусь страціць незалежнасць?**

– Я лічу, што магла б, і верагодней за ўсё страціла б.

**– Атрымоўваецца, Лукашэнка дапамог яе захаваць?**

– Справа ў тым, што ён хоча быць кіраўніком дзяржавы. А таму ён за тое, каб была дзяржава. А ў Кебіча, відаць, такіх амбіцый не было, і пры адпаведных умовах, мне здаецца, ён гатовы быў бы незалежнасць здаць.

**– Чаму Вы, Генадзь Мікалаевіч, не атрымалі званне народнага паэта?**

– Гэтае пытанне не да мяне. А чаму, скажам, я ўнесены сёння ў «чорныя спісы»? Хаця пытанне пра народнага для мяне, прызнаюся шчыра, неабыякавае. Вельмі часта з трыбун і ў друку мяне называюць народным паэтам Беларусі. Калі гэта толькі пачалося, я заўсёды браў слова і казаў: дзякуй, але я не народны паэт. Але міжволі атрымоўвалася, быццам я набіваю сабе цану, скарджуся. Таму цяпер я маўчу.

Чаму не атрымаў? Я думаю, у сувязі з тым, што ў тую пару, калі я мог атрымаць званне, прыйшоў рэжым, які мы маем. Аднак мне вельмі прыемна і ўсцешна, што народны паэт Пімен Панчанка ў свой час напісаў ліст з прапановай прысвоіць мне такое званне. Вось гэта для мяне шчасце...

**Руслан Гарбачоў,**
**«Салідарнасць»**
**Друкуецца скарочана**

**Лукашэнка павіншаваў украінца Ступку з народзінамі, а Бураўкін — абыдзецца**

Аляксандр Лукашэнка 27 жніўня павіншаваў народнага артыста Украінскай ССР, народнага артыста СССР Багдана Ступку з 70-годдзем, пажадаў юбіляру здароўя, доўгіх і плённых гадоў служэння мастацтву, натхнення, шчасця і дабрабыту. 28 жніўня дзень народзінаў святкаваў Генадзь Бураўкін. Паведамленняў пра тое, што Лукашэнка яго павіншаваў, ні БелТА, ні сайт Лукашэнкі не падаюць.

IN MEMORIAM



# Віталь Скалабан

Адзін з найлепшых беларускіх гісторыкаў адышоў 20 жніўня, у 64 гады.

Скалабан быў унікальным знаўцам гісторыі беларускага нацыянальнага руху. Менавіта ён выявіў, хто быў аўтарам паэмы «Тарас на Парнасе». Ён стаяў ля вытокаў стварэння найлепшых энцыклапедый на беларускай мове, у тым ліку 6-тамовай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі». Пры гэтым ён быў выдатным пісьменнікам: ён аўтар дзясяткаў публікацый у газетах і часопісах, пісаў пра постаці і эпізоды гісторыі.

Кандыдацкую ён абараніў даволі позна — у 1987 годзе. Доктарам навук так і не стаў: хоць ведаў і адкрыў больш за многіх дактароў.

Свае навуковыя зацікаўленні пазначаў як: Доўнар-Запольскі, Улашчык, Янка Купала, Гарэцкі, Ігнатоўскі, Платонаў, КПБ; гісторыя беларускага нацыянальнага руху, культура XIX-XX стст., пытанні гістарыяграфіі, архівазнаўства, краязнаўства і бібліяграфіі.

Заўжды вясёлы, ён быў душою асяродкаў, у якіх працаваў.

Адыход Віталя Скалабана — гэта страта для беларускай культуры, якую нават цяжка вымераць. Як шкада, што адышоў так хутка і так рана. Ён яшчэ многае мог бы зрабіць. У яго было шмат задумаў.

23 жніўня Віталя Скалабана пахавалі на Паўночных могілках Мінска.

**Віталь Скалабан**

Нар. у 1947 у вёсцы Шылавічы Слонімскага раёна. Скончыў Ленінградскі ўніверсітэт у 1970. Ад 1972 працаваў у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя» рэдактарам, пасля загадчыкам рэдакцыі. У 1995–2000 быў намеснікам дырэктара Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы.

# КДБ пра беларускіх нацыяналістаў

Рассакрэчаная метадычка савецкай дзяржбяспекі. Піша **Алег Дзярновіч.**

Ужо каля двух дзясяткаў гадоў Служба Бяспекі Украіны (СБУ) рассакрэчвае дакументы савецкага КДБ. На сёння ўжо больш за 80 тысяч дакументаў пазбавіліся статуса сакрэтнасці. А ад 2011 г. СБУ пачала рэвізію навучальных матэрыялаў, падрыхтаваных у свой час для школ КДБ СССР.

Сярод іх — навучальны матэрыял «Беларускія буржуазныя нацыяналісты», напісаны падпалкоўнікам Бойчанкам і маёрам Яроміным. Гэты падручнік, выдадзены ў 1957 г. у Маскве, меў стандартны для падобных матэрыялаў грыф «Цалкам сакрэтна» і прызначаўся для выкарыстання толькі ў «вучэбных і службовых памяшканнях школ і органаў КДБ». Рабіць любыя копіі з яго было забаронена.



Адзін з рэдкіх здымкаў беларускіх паваенных партызанаў. Група Філістовіча, Ільянскі раён, 1952 год.

## У палоне ўласных фобій

На пачатку падручніка быў дадзены кароткі агляд гісторыі беларускага руху, пачынаючы ад утварэння ў 1902 г. студэнтамі Санкт-Пецярбурга Беларускай рэвалюцыйнай грамады.

І тут мы бачым сапраўдныя маштабы несумяшчальнасці бальшавіцкай ідэалогіі і беларускага жыцця. Любыя беларускія ініцыятывы — гаспадарчыя, культурныя, палітычныя — абвяшчаліся варожымі, вартымі асуджэння і пераследу: «беларускія буржуазныя нацыяналісты ёсць злейшымі ворагамі Савецкай улады і беларускага народа. Маскіруючыся лозунгам стварэння «самастойнай Беларусі», яны адстойваюць інтарэсы буржуазіі, вялі і працягваюць весці актыўную барацьбу супраць свайго народа». Ці ёсць сэнс далей цытаваць гэтую ідэалагічную траскатню? Адзначым толькі, што чэкісты пасьлясталінскай эпохі самі знаходзіліся ў палоне створаных іхнімі папярэднікамі фантомаў.

Вось што аўтары 1950-х пісалі пра працэс «Саюза вызвалення Беларусі» 1930 г.: «У 1926 годзе на тэрыторыі БССР нацыяналісты стварылі антысавецкую паўстанцкую арганізацыю з цэнтрам у Мінску... Яна мела філіялы ў Віцебску, Полацку і іншых гарадах Беларускай ССР. Для пашырэння антысавецкай дзейнасці «Саюза вызвалення Беларусі» спецыяльная група на чале з актыўным нацыяналістам Улашчыкам вербавала ў падполле моладзь».



69 ин. № 39

КОМИТЕТ
ГОСУДАРСТВЕННОЙ БЕЗОПАСНОСТИ
ПРИ СОВЕТЕ МИНИСТРОВ СССР
ВЫСШАЯ ШКОЛА

39

СОВЕРШЕННО СЕКРЕТНО

№2450

БЕЛОРУССКИЕ
БУРЖУАЗНЫЕ
НАЦИОНАЛИСТЫ

(УЧЕБНЫЙ МАТЕРИАЛ)

РЕДАКЦИОННО-ИЗДАТЕЛЬСКИЙ ОТДЕЛ

МОСКВА 1957

13 536



Справа СВБ была сфабрыкаваная «органамі». Але не вельмі ўдала. Паводле ўзгаднення з ЦК ВКП(б) рыхтаваўся адкрыты судовы працэс па гэтай агульнай справе, аналагічны таму, які ў тым жа 1930 г. адбыўся ва Украіне па справе «Спілки визволення України». Але на папярэднім следстве выявілася, што толькі 25 з 85 арыштаваных па справе СВБ прызналі віну. Для публічнага працэсу працэнт быў замалы.

У 1988 г. КДБ БССР у адказ на запыт Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ адказаў, што «...уважлівым вывучэннем архіўных матэрыялаў не выяўлена якіх-небудзь дакументальных матэрыялаў аб верагоднасці існавання «Саюза вызвалення Беларусі».

Такім чынам, у першай частцы падручнік «Беларускія буржуазныя нацыяналісты» — найменш арыгінальны і малацікавы. Гэта звычайная агітка.

## Драма паваеннай Беларусі

Рэальныя факты з'яўляюцца ў раздзеле, прысвечаным беларускаму антысавецкаму падполлю ў паваенны перыяд. Тэма падполля заставалася актуальнай для сярэдзіны 1950-х. Савецкім спецорганам прыходзілася арганізоўваць аператыўную дзейнасць, адпаведным прыёмам якой і навучаліся слухачы школ КДБ. «Беларускі» ж досвед, як высвятляецца, мог быць карысным для ўсяго КДБ.

Зусім новых фактаў (імёнаў і падзеяў) у выданні небагата. За апошнія дваццаць гадоў гісторыкі прарабілі немалую даследчую працу. Пачынаючы хоць бы ад даведніка 1999 г. «Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944—1956»; публікацый Міхася Чарняўскага пра мядзельска-смаргонскае моладзевае падполле; публікацый мясцовых краязнаўцаў. А ў кнізе супрацоўніка Цэнтральнага архіва КДБ Беларусі Ігара Валахановіча «Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944—1953 гг.» змешчана куды больш звестак з архіваў КДБ, чым у маскоўскім падручніку 1957 г.

Затое ў падручніку маюцца звесткі пра тактыку спецорганаў. Як сцвярджаюць аўтары, «асноўным сродкам барацьбы з падрыўной дзейнасцю беларускага антысавецкага буржуазна-нацыяналістычнага падполля ёсць агентура». А гэта значыць — укараненне ў арганізацыю агентаў. Вядома, пішуць аўтары, для «распрацоўкі» беларускіх нацыяналістаў трэба вербаваць агентаў з асяроддзя савецкіх грамадзян на патрыятычным грунце. Варта заводзіць агентуру і з ліку саміх нацыяналістаў. Але тут, папярэджваюць аналітыкі КДБ, могуць паўстаць праблемы: «...агент, завербаваны з асяроддзя беларускіх нацыяналістаў, звычайна працуе чэсна толькі ў тым выпадку, калі ён шчыра распавёў пра ўсе свае злачынныя справы, выдаў сваіх саўдзельнікаў і іншых вядомых яму ўдзельнікаў нацыяналістычнага падполля і, такім чынам, адрэзаў сабе шлях да ранейшай антысавецкай дзейнасці, звязаў свой лёс з органамі дзяржаўнай бяспекі». Калі ж агента не будуць штодзённа выхоўваць і кантраляваць, ён можа з-за сваіх антысавецкіх, нацыяналістычных перакананняў стаць на шлях двурушніцтва, здрады.

Так здарылася з «Васкоўнікавым» (усе агенты ў тэксце падаюцца пад аператыўнымі псеўданімамі). «Васкоўнікаў» быў завербаваны дзеля распрацоўкі «Саюза вызвалення Беларусі» — падпольнай арганізацыі, якая базавалася ў Навагрудку і дзейнічала ў 1946—1947 гг. і якую ўзначальваў Генадзь Казак. Пасля вярбоўкі «Васкоўнікаў» паведаміў сябрам арганізацыі, што за заданне ён атрымаў ад чэкістаў. Але і сярод тых сяброў быў агент дзяржбяспекі. «Васкоўнікаў» быў арыштаваны, а на пытанне следчага пра прычыны расшыфроўкі адказаў, што «не пажадаў выдаваць «сваіх людзей».

Іншы прыклад. У былой Полацкай вобласці па агентурнай справе «Невядомыя» распрацоўвалася група «Беларусь». Падчас аператыўных мерапрыемстваў быў выяўлены Неверкавец, родны брат якога знаходзіўся ў гэтай падпольнай групе. Неверкаўца спехам завербавалі, шантажуючы сувяззю з братам-падпольшчыкам, і далі псеўданім «Воранаў». Новы агент атрымаў заданне падрыхтаваць умовы для ліквідацыі групы. Але пасля вярбоўкі стаў ухіляцца ад явак і хутка перайшоў на нелегальнае становішча, браў удзел у нападзе на двух інспектараў райфінаддзела.

Можна толькі здагадвацца, якія асабістыя драмы і трагедыя цэлага краю стаяць за сціслымі інфармацыйнымі радкамі. Супрацьстаянне і тэрор разбуралі сем'і, а органы бяспекі выкарыстоўвалі самыя жорсткія метады аператыўнай працы.

Аўтары падручніка лаканічна паведамлялі, што антысавецкае падполле актыўна пашырае ўлёткі, «накіраваныя супраць мерапрыемстваў, якія праводзіліся Камуністычнай партыяй і Савецкім урадам у галіне сельскай гаспадаркі». Так нейтральна характарызавалася новая хваля гвалтоўнай калектывізацыі, якая накрыла Заходнюю Беларусь у 1947—1950 г. Рэпрэсіі і дэпартацыі «кулакоў» у глыб СССР сталі неабходнымі для паспяховага правядзення «сацыялістычных» пераўтварэнняў на вёсцы. Яшчэ нават у 1951 г. (18 верасня) Савет Міністраў СССР прымае пастанову «Аб высяленні кулакоў з Беларускай ССР». Але гэтаму дакументу папярэднічаў ліст ЦК КП(б)Б ад 22 жніўня 1951 г. у Маскву на імя сакратара ЦК ВКП(б) Георгія Малянкова, у якім беларуская наменклатура прасіла вырашыць пытанне аб далейшым высяленні «кулацкіх» гаспадарак. Толькі ў Баранавіцкай вобласці да ліку такіх было аднесена 1257 сялянскіх сем'яў.

З тэксту ж падручніка мы можам даведацца і пра больш праваацыйныя і незаконныя метады дзейнасці савецкіх спецорганаў. Рэч у тым, што поруч з так званымі «агентамі-ўнутраннікамі» супраць беларускага падполля выкарыстоўваліся «агенты-баевікі», якія «выступалі пад відам бандытаў, а ў неабходных выпадках з іх ствараліся агентурна-баявыя групы, легендзіраваныя... пад тыя ці іншыя звёны варожага падполля». Застаецца толькі здагадвацца, колькі ўзброеных правакацый, у тым ліку і супраць мірнага насельніцтва, было здзейснена гэтымі агентамі-баевікамі.

## Ці магчымыя ўрокі?

Падручнік цікавы і тым, што для вузкай аўдыторыі распавядаў пра з'яву, наяўнасць якой на афіцыйным узроўні не прызнавалася. Палітычнае становішча ў заходнебеларускім рэгіёне не стала тэмаю абмеркавання на першым паваенным, XIX з'ездзе КП(б)Б, які праходзіў 15—18 лютага 1949 г. Стваралася ўражанне, што антысавецкага падполля ў Беларусі ўвогуле не існуе.

Аўтары ж падручніка сцвярджалі, што на тэрыторыі Беларусі органам дзяржбяспекі даводзілася мець справы не толькі з беларускімі, але таксама з польскімі і ўкраінскімі буржуазнымі нацыяналістамі, і што паміж асобнымі звёнамі гэтых груповак можа існаваць кантакт. Што беларускія буржуазныя нацыяналісты трымаюцца строгай канспірацыі, прымаючы ў падполле новых хаўруснікаў з вялікай асцярогай. А ўдзельнікі «нацыяналістычных узброеных банд» пры правядзенні чэкісцкіх аперацый аказваюць адчайны ўзброены супраціў. А арыштаваныя, гэтыя заклятыя ворагі савецкай улады, на першых допытах імкнуліся шчырыя паказанні не даваць, разлічваючы, што саўдзельнікі на волі паспеюць схавацца, змяніць паролі, яўкі, шыфры, коды і г. д.

Але ці можна адкінуць усе абвінавачванні аналітыкаў КДБ на адрас беларускага падполля? Фактам застаецца, што, асабліва на першым этапе, значную частку антысавецкага супраціву складалі людзі, якія былі раней так ці інакш павязаныя з нямецкай акупацыйнай адміністрацыяй. А калабарацыянізм сапраўды падводзіў некаторых беларускіх актывістаў да злачынных мяжы.

У канцы 1940-х трэнд змяніўся — цяпер беларускіх актывістаў сталі актыўна выкарыстоўваць амерыканскія і брытанскія спецслужбы. З гэтым і звязаныя парашутныя дэсанты на тэрыторыю Беларусі. Чаканне вайны СССР з заходнімі дэмакратыямі падсілкоўвала гэтыя акцыі, а звыклы савецкі тэрор супраць сялянства дазваляў эмісарам заходніх спецслужб знаходзіць прыхільнікаў сярод мясцовага насельніцтва. Але на пачатку 1950-х сітуацыя стала іншай — было відавочна, што ЗША і Вялікабрытанія не гатовыя да новай вялікай вайны. А беларускае сялянства, на падтрымку якога ў першую чаргу разлічвалі нацыяналісты, было абяскроўленае калектывізацыяй, найактыўнейшыя прадстаўнікі яго былі расцярушаныя па абшарах Сібіры, Поўначы і Казахстана. Ва ўмовах знікнення сацыяльнай базы і змены замежнапалітычнай сітуацыі беларускі ўзброены падпольны рух спыніў існаванне.

У сярэдзіне 1950-х савецкія спецслужбы пераадолелі супраціў «пакалення Рагулі», некалі павязанага з нямецкай адміністрацыяй. Цяпер іх увага і ўдар будуць скіраваныя на іншыя фармацыі — тых, хто быў па савецкім баку лініі фронту ў мінулай вайне. Настала чарга «пакалення Быкава».

# Адзін з кіраўнікоў «Нафтана» адмовіўся ад хабару $40 тыс.

і дапамог затрымаць хабарадаўцу.

40 тысяч даляраў хабару быў гатовы заплаціць бізнэсовец з Расіі за права набыць у ААТ «Нафтан» па заніжаным кошце, без тэндару чатыры спісаныя халадзільныя ўстаноўкі, паведамілі БелТА ў пракуратуры Віцебскай вобласці. Такі шчодры прэзент — па 10 тыс. за кожную — быў абумоўлены тым, што ў абсталяванні ўтрымліваліся медныя сплавы.

Адзін з кіраўнікоў «Нафтана», да якога звяртаўся бізнэсовец з Растоўскай вобласці, адмаўляўся судзейнічаць. Хабарнік настойваў. Тады работнік «Нафтана» вырашыў звярнуцца ва ўпраўленне КДБ па Віцебскай вобласці. Там яму параілі працягваць перамовы, каб затрымаць хабарніка «з палічным».

У момант перадачы $20 тысячаў «авансу» грамадзянін РФ быў затрыманы. Як паведамляецца, нафтанаўскі работнік падчас перамоваў не раз казаў яму, што такія дзеянні незаконныя і пагражаюць крымінальнай адказнасцю. Але бізнэсовец адказваў, што гэта нармальная практыка «вядзення справаў» у Расіі.

Суд Наваполацка даў хабарніку два гады пазбаўлення волі па ч. 2 арт. 431 КК «Даванне хабару». Асуджаны цалкам прызнаў віну і папрасіў узяць пад увагу яго сямейнае становішча і стан здароўя. Касацыйная інстанцыя замяніла пазбаўленне волі штрафам у 35 мільёнаў рублёў. Калі штраф быў выплачаны, бізнэсовец з'ехаў на радзіму. Без халадзільных установак.

**Сяргей Мікулевіч**

## Сцісла

• **Пад коламі легкавіка загінулі тры чалавекі.** Кіроўца «Сітраэн Ксанція» ў Барысаўскім раёне выехаў на сустрэчную паласу і збіў чатырох пешаходаў, трое з якіх памерлі на месцы. Яшчэ адзін пешаход быў шпіталізаваны. Пасля сутыкнення аўтамабіль з'ехаў на ўзбочыну і ўрэзаўся ў дрэва. Кіроўца не пацярпеў. Па папярэдніх дадзеных, ён знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення.

• **У Магілёве затрыманы валютчык з буйной сумай.** Пры абмене 75 тысяч расійскіх рублёў на 20,6 млн беларускіх быў затрыманы 44-гадовы магілёвец. Падчас затрымання ў яго канфіскавалі 18750 долараў, 6110 еўра, 174610 рублёў РФ.

• **У Брэсце пад дахам знайшлі кулямёт.** На паддашку кінатэатра «Мір» знойдзены кулямёт узору 1943 года і 85 патронаў. Стралковая зброя без станіны, а таксама 83 патроны калібру 7,62 мм і два патроны калібру 5,45 мм знайшлі будаўнікі падчас правядзення дахавых работ. Станковы кулямёт сістэмы Гарунова быў выраблены ў 1949 годзе і знаходзіцца ў спраўным стане.

• **Смаргонскія памежнікі знайшлі прадмет, падобны на гранату, у цягніку «Калінінград—Санкт-Пецярбург».** 25 жніўня пры афармленні цягніка «Калінінград — Санкт-Пецярбург» у чыгуначным пункце пропуску «Гудагай-1» смаргонскія памежнікі ў штабным вагоне ў купэ электрыка выявілі прымацаваны да століі купэ прадмет, падобны на гранату. Былі эвакуяваныя пасажыры. Прадмет канфіскаваны супрацоўнікамі падраздзялення «Алмаз» для экспертызы.

• **У Гродне ў аварыі разбіліся трое маладых людзей.** 17-гадовы гродзенец вырашыў пакатаць на бацькавым аўто двух 18-гадовых дзяўчат. Паездка па начным горадзе скончылася трагічна **(на фота)**. Ён не справіўся з кіраваннем, і аўто збіла спачатку святлафор, затым дарожны знак, а потым пратараніла асвятляльную апору. Дзяўчаты ў цяжкім стане трапілі ў рэанімацыю. Гора-кіроўца таксама шпіталізаваны. Паводле папярэдняй інфармацыі, у момант здарэння ён мог быць нецвярозым. Уладальнік аўто, бацька хлопца, прызнае, што даў ключы ад аўто сыну. Але падкрэслівае, што толькі для таго, каб той мог паслухаць з сябрамі музыку.




• **Сын ударыў маці нажом за тое, што яна прымушала яго працаваць.** Трагедыя здарылася 25 жніўня ў вёсцы Бартнікі Баранавіцкіага раёна. 52-гадовая жанчына ў чарговы раз стала выгаворваць свайму сыну, што таму даўно пара ўзяцца за розум, перастаць піць і ўладкавацца на працу. Што яна стамілася яго карміць. Сын, нібыта, не вытрымаў, узяў нож і ўдарыў маці ў жывот. А потым збег. Жанчына трапіла ў бальніцу, а яе сына ў той жа дзень затрымалі ў хаце бабулі. Распачатая крымінальная справа.

• **Паветка згарэла ад хімічнай рэакцыі вапны з вадой.** Драўляная паветка згарэла на прыватным падворку ў вёсцы Гілікі Валожынскага раёна ноччу 23 жніўня. Агонь таксама пашкодзіў аўтамабіль «Пежо-307», які стаяў побач. Пажар мог здарыцца ад цеплавога эфекту хімічнай рэакцыі негашанай вапны і вады. Вада трапіла ў вапну, потым іскра — на салому.

• **Гарэлка ў злодзеяў карыстаецца папулярнасцю.** Ноччу 25 жніўня ў вёсцы Мацькаўцы Вілейскага раёна невядомыя злачынцы з магазіна-кавярні скралі спіртныя напоі, цыгарэты і прадукты на суму 1775000 рублёў. Гаспадыня крамы, 42-гадовая жыхарка вёскі, расказала ў міліцыі, што зладзеі залезлі ў магазін, разбіўшы шыбу. Гандлёвы пункт быў абсталяваны аўтаномнай ахоўнай сігналізацыяй, але гэта не спыніла аматараў дармавой выпіўкі і закускі.

• **Дзіця памерла ад пашкоджанняў, якія магла нанесці яму родная маці.** Хлопчык паступіў у рэанімацыйнае аддзяленне Пінскай гарадской бальніцы ў вельмі цяжкім стане. Медыкі дыягнаставалі закрытую чэрапна-мазгавую траўму, удар галаўнога мозга цяжкай ступені і кому 2-й ступені. Праз тры дні хлопчык памёр. Яго маці сама выклікала хуткую дапамогу. У 28-гадовай жанчыны, акрамя гэтага дзіцяці, яшчэ трое дзяцей.

• **У Пружанскім раёне малады матацыкліст збіў насмерць 80-гадовую аднавяскоўку.** Здарэнне адбылося ў вёсцы Перадзельск Пружанскага раёна. 19-гадовы мясцовы жыхар, кіруючы матацыклам «Ява-350», учыніў наезд на 80-гадовую аднавяскоўку, якая пераходзіла дарогу. Жанчына памерла на месцы. Устаноўлена, што матацыкліст не меў правоў.

• **Мінскі праграміст страляў з пісталета па машынах з балкона.** Зброю 26-гадовы праграміст адной са сталічных фірмаў набыў па аб'яве ў інтэрнэце. Прыкладна ў 2.00 хлопец вырашыў пахваліцца пакупкай маме і зладзіў паказальную стральбу з балкона. Сваёй мэтай ён абраў машыны на аўтастаянцы. Куля патрапіла ў адзін з аўтамабіляў і пакінула невялікую ўвагнутасць. Відавочцы выклікалі міліцыю. Як патлумачыў уладальнік пісталета, ён казаў людзям на стаянцы, што патроны халастыя і не варта хваляваца. Пра тое, што страляць у грамадскіх месцах забаронена, ён ведаў, але разлічваў, што гэтага ніхто не ўбачыць.

**СМ**

# Пазітыўныя навіны ад Эдзіка Базанава

Хлопчык амаль пазбавіўся ад сутаргаў, пачаў чытаць і рыхтуецца вучыцца хадзіць.

У Рэдакцыю «НН» звярнулася мама маленькага Эдзіка Базанава (яна звярталася па дапамогу да чытачоў «Нашай Нівы» ў адным з мінулых нумароў). Яна дзеліцца пазітыўнымі вынікамі паездкі ў ЗША. Дзякуючы лекавым працэдурам хлопчык амаль пазбавіўся сутаргаў, якія мучылі яго па 3-5 разоў на дзень. Акрамя таго, высветлілася, што хлопчык можа чытаць, хоць да паездкі за акіян ён быў функцыянальна сляпым.

Па-ранейшаму, галоўнай праблемай застаецца рухальнае развіццё Эдзіка, якому хутка споўніцца 3 гады. Але бацькі не апускаюць рук. Наступная паездка ў ЗША прызначаная на 14 лістапада. У бацькоў Эдзіка засталася рэшта грошай, але гэтага недастаткова. Ахвотныя дапамагчы могуць атрымаць вычарпальную інфармацыю пра лячэнне Эдуарда Базанава на сайце dcp.by.

Бацькі Эдзіка дзякуюць усім дабрадзеям, што дапамагаюць ім у лячэнні сына.

**СП**

**Дапамагчы можна,** пералічыўшы сродкі на дабрачынны рахунак, адкрыты ў філіяле № 514 АСБ «Беларусбанк», УНП 100420097; МФО 153001614.

**У беларускіх рублях** — № 000000008

(Транзітны рахунак № 3819382102369 пры пералічэнні сродкаў юрасобай)

**У далярах ЗША** — № 8400000000112

(Транзітны рахунак № 3819382109779 пры пералічэнні сродкаў юрасобай)

**У еўра** — № 9780000000018

(Транзитный рахунак № 3819382109779 пры пералічэнні сродкаў юрасобай)

**У расійскіх рублях** — № 6430000000009

(Транзітны рахунак № 3819382109779 пры пералічэнні сродкаў юрасобай)

**Прызначэнне плацяжу**: На Дубінка Вольгу Вячаславаўну для лячэння сына Базанава Эдуарда.

**Нумар кашалька EasyPay:** 09814460

**Нумары кашалькоў Webmoney:**

Беларускія рублі: B131285312953

Даляры ЗША: Z310650633740

Расійскія рублі: R249762746578

Еўра: E149232757799

**Для паштовых пераводаў:**

Атрымальнік: Дубінка Вольга Вячаславаўна

Пашпарт МР 2051911 выдадзены Савецкім РУУС г. Мінска

Адрас: г. Мінск, вул. Кунцаўшчына, 15–15.





**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

## СПОРТ

**Футбол: Беларусь—Боснія**

**2 верасня (пятніца) ў Мінску** на стадыёне «Дынама», пройдзе матч адборачнага турніру чэмпіянату Еўропы—2012 паміж зборнымі Беларусі і Босніі. **Пачатак у 20.30.** Квіткі каштуюць ад 5 да 60 тысяч у касах стадыёна, а таксама на www.kvitki.by і www.ticketpro.by. Гасцявы матч у Зеніцы пройдзе 6 верасня. Каманды змагаюцца за 2-е месца, якое дае пуцёўку ў стыкавыя матчы.

**Capital Cup Minsk-2011**

**Міжнародныя спаборніцтвы па спартыўных бальных танцах Capital Cup Minsk-2011** адбудуцца 10—11 верасня ў «Мінск-Арэне». **Пачатак а 10-й.**

## КАНЦЭРТЫ

**Эндзі Флэтчар**



**2 верасня ў Белэкспа (вул. Янкі Купалы, 27)** — канцэрт Эндзі Флэтчара.

Адзін з заснавальнікаў Depeche Mode пасля 17 гадоў супрацоўніцтва з легендарнай камандай — спачатку ў якасці бас-гітарыста, потым клавішніка і, нарэшце, нязменнага менеджара — працягвае эксперыментаваць з гукам, але ўжо ў новым фармаце dj-сэтаў, у якіх камбінуе электронныя сэмплы з хітамі Depeche Mode.

Канцэпцыя ягонага тура — пабываць у тых мясцінах, куды яшчэ не прыязджалі Depeche Mode. Да Беларусі ён паспеў выступіць у Румыніі, Украіне, Аўстраліі, Тайландзе, Сінгапуры, на Філіпінах.

Прагучаць Personal Jesus, Barrel Of A Gun, Precious і многія іншыя хіты ў эксклюзіўнай апрацоўцы. **Пачатак а 20-й.**

**Ірландскія танцы**



**Фолк-гурт «Рагнеда» і ансамбль ірландскага танца Bass dance** 27 верасня а 19-й выступіць на сцэне Вялікай залы Белдзяржфілармоніі.

**Наталля Ліпніцкая**

**Малая зала імя Р.Шырмы запрашае 26 верасня** на канцэрт лаўрэата міжнародных конкурсаў Наталлі Ліпніцкай (гітара). **Пачатак а 19-й.**

**Noize MC**

**30 верасня ў клубе «RE:Public» (вул. Прытыцкага, 62)** выступае Noize MC — адзін з найлепшых расійскіх фрыстайлераў, безумоўная велічыня расійскага хіп-хопа. **Пачатак а 19-й.**

**The UNB**

**2 верасня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — канцэрт The UNB. **Пачатак а 19-й.**

**«Ляпис Трубецкой»**

**10 верасня 2011 года ў Санкт-Пецярбургу ў клубе «Касманаўт»** адбудзецца канцэрт гурта «Ляпис Трубецкой» з праграмай «Грай». Для аматараў гурта і тых, хто хоча цікава правесці выходныя 9-11 верасня арганізуецца аўтобусна-экскурсійны тур з Менску. Падрабязная інфармацыя па тэлефонах 292-64-13, (029) 708-95-18, (044) 710-43-68.

## ІМПРЭЗЫ

**Вялікае княства паэзіі**

**8-9 верасня ў доме культуры ветэранаў (Я. Купалы 21)** адбудзецца міжнародны паэтычны фестываль «Вялікае княства паэзіі», прысвечаны 100-годдзю Чэслава Мілаша. Бяруць удзел: Наталля Гарбанеўская (Польшча/Францыя/Расія), Рышард Крыніцкі, Яцэк Гутараў (Польшча), Эўгеніюс Алішанка, Вітас Дэкшніс, Данатас Пятрошус (Літва), Марыяна Кіяноўская, Алег Лышэга (Украіна), Уладзімір Арлоў, Ігар Бабкоў, Марыя Мартысевіч, Алесь Разанаў, Віталь Рыжкоў, Андрэй Хадановіч (Беларусь). Уваход на ўсе імпрэзы фестываля вольны.

## ВЫСТАВЫ

**«Млыны Беларусі»**

**Да 18 верасня ў Гістарычным музеі (вул. Маркса, 12)** працуе выстава жывапісных работ Віктара Нямцова «Млыны Беларусі». Віктар Нямцоў займаецца вывучэннем ветракоў і вадзяных млыноў у розных рэгіёнах Беларусі. Яны вабяць мастака шматзначным і адметным выглядам. Нямцоў займаецца гістарычна-жывапіснай рэканструкцыяй — на яго карцінах з занядбаных рэштках зноў узрастаюць асілкі-млыны.

**Лялька — таксама чалавек**

**Ад 1 да 8 верасня на сцэне Тэатра лялек** пройдзе фестываль польскіх спектакляў і анімацыйнага кіно для дарослых «Лялька — таксама чалавек». Гледачы ўбачаць анімацыйныя работы студыяў «СЕ-МА-ФОР» і «Серафіньскі», а таксама сюіту для тэкстуры і кантрабаса «Уніі Немагчымы Тэатр» «Топарланд» і спектакль «Другі пакой».

## ТЭАТРЫ

**1 верасня**

**Оперы і балета** — «Аіда»

**Лялек** — Фестываль польскіх спектакляў і анімацыйнага кіно для дарослых «Лялька — таксама чалавек»

**2 верасня**

**Лялек** — «Лялька — таксама чалавек»

**Оперы і балета** — «Аіда»

**3 верасня**

**Лялек** — «Лялька — таксама чалавек»

**4 верасня**

**Лялек** — «Лялька — таксама чалавек»

**5 верасня**

**Лялек** — «Лялька — таксама чалавек»

**6 верасня**

**Лялек** — «Лялька — таксама чалавек»

**7 верасня**

**Лялек** — «Лялька — таксама чалавек»

**8 верасня**

**Лялек** — «Лялька — таксама чалавек»

**9 верасня**

**Беларускай драматургіі** — «Каласы пад сярпом тваім»

**Оперы і балета** — «Севільскі цырульнік»

**10 верасня**

**Беларускай драматургіі** — «Чайка»

**11 верасня**

**Оперы і балета** — «Сільфіда»



3 верасня пад Мінскам адбудзецца фолк-фэст «Камяніца». Гэтым разам хэдлайнерамі будуць беларускія гурты «Тройца» і Osimira. У якасці спецыяльнага госця і сюрпрызу — лідар украінскай рок-групы «Воплі Відаплясава» Алег Скрыпка.

Фэст адбываецца ўжо трэці год запар у Музеі народнай архітэктуры і побыту (вёска Азярцо, 4 км за аўтарынак «Малінаўка»), на тэрыторыі якога знаходзіцца ўнікальная калекцыя аўтэнтычнай беларускай драўлянай архітэктуры XVIII—XX стагоддзяў.

Этна-трыа «Тройца» ўпершыню прадставіць у Беларусі на вялікай сцэне свой новы альбом «Зімачка». Магілёўскі гурт Osimira, які добра ведаюць у Расіі, Украіне і Польшчы, выступіць у Мінску ўпершыню з 2007 года. А для лідара «ВВ» Алега Скрыпкі гэта першы ў Беларусі выступ з фолк-праграмай.



**Весна Касэрас у Мінску**

**8 верасня ў «Лісінай нары» (Каліноўскага, 32)** заспявае адна з найбольш папулярных спявачак пражскіх клубаў Весна Касэрас (Чэхія). Разам з ёй выступіць джазгурт Apple Tea. У праграме — босановы на партугальскай мове. **Пачатак у 19.30.**

## КІНО

### Конан-варвар

**Conan the Barbarian**
ЗША, 2011, каляровы, 112 хв, 3D
**Рэжысёр**: Маркус Ніспэл
**Жанр**: Жорсткае фэнтэзі
**Адзнака**: 3 (з 10)

Чорны маг Халар Зім спаліў вёску Конана і забіў яго бацьку. Праз дзесяць гадоў Конан шукае старога ворага, каб адпомсціць яму. Выйсці на мага дапамога прыгажуня Тамара, за якой палюе некрамант.

Параўноўваць стужку Маркуса Ніспэла з колішняй класікай, дзе зняўся Арнольд Шварцнегер, — не варта. Фільм — халоднае і нуднае мачылава з няўцямнаю рэжысурай. Плюхаюцца мазгі крывавымі качанамі, расплаўлены метал залівае раны, кроў выпускаецца вёдрамі. Але за ўсім гэтым няма кіно і — як ні банальна — душы.

Акцёр старой школы Рон Перлман як можа ажыўляе ролю бацькі героя, Роўз Макгоўн з гатычным шармам грае прынцэсу-ведзьму з кіпцюрамі ад Фрэдзі Кругера. Але падбор галоўных акцёраў фатальны. Джэйсан Мамоа — Конан — увогуле, замест мэблі, і толькі перыядычна махае кулакамі, як у камп'ютарных гульнях. Акцёр нават не здольны сам ездзіць на коні: яго падмяніў дублёр.

Няма ў фільме і варварства, калі сураваcць сябруе з гонарам, а геройчная гісторыя разгортваецца на вачах. Замест гісторыі — сцэнарныя канвульсіі. Зрэшты, калі прагнеце паглядзець на выбітыя мазгі — гэта стужка для вас.

**Андрэй Расінскі**



# Грошы за смецце

Як пачысціць сваю кватэру і зарабіць на гэтым?

Крызіс — добрая нагода, каб пашукаць дадатковы заробак. Часцяком ён хаваецца ледзь не пад нагамі, варта толькі прыглядзецца. Калі шуфлядкі, балконы, гараж і лецішча пад завязку забіты ламаччам, задумайцеся: колькі можна на ім зарабіць. Стаць мільянерам наўрад атрымаецца, але будзе і прыемны бонус — вызвалілца свабодная прастора.

### У суткі да мільёна

...Разбітая дарога да прадпрыемства «Другчормет», што ў Гатаве пад Мінскам. Ад з'езда з трасы пачынаецца чарга з сотні грузавікоў і легкавікоў з прычэпамі, загружанымі металаломам. Вязуць усё: і старыя ванны, і ржавыя рухавікі. Канца чаргі не відаць: людзей тут больш, чым у любым спісе ля абменніка. «Колькі стаіце?» — «Ад вечара. У кабіне начавалі. Можа, за суткі наша чарга і дойдзе», — кажуць кіроўцы. Але стаяць ёсць рэзон — за тону «чормету» можна атрымаць да 500 тысяч рублёў.

### Аўто: даплаціць за ўтылізацыю

Куды падзець аўтамабільныя расходнікі — хворае пытанне для любога кіроўцы, які хоць трохі дбае пра экалогію. Напрыклад, маторную аліву. Выліць яе ў траву не падымецца рука, але цэнтралізаванага прыёму пакуль



што няма. Застаецца прапанаваць непатрэбныя літры на СТА — на многіх з іх ёсць печкі, якія працуюць на аліве. Тая ж сітуацыя і з шынамі. Некаторыя станцыі тэхнічнага абслугоўвання згаджаюцца пакінуць іх сабе, але за дадатковыя грошы, хоць і сімвалічныя.

А вось аўтамабільныя акумулятары — даволі выгадны артыкул папаўнення сямейнага бюджэту. Нездарма прадпрымальныя людзі ездзяць па вёсках і скупляюць акумулятары за 5—10 тысяч. Пасля яны накіроўваюцца ў аддзяленні «Белколермет» і атрымліваюць па 40—50 тысяч за штуку. Арыенціровачны кошт — па 3000 рублёў за кожны кілаграм вагі, прычым электраліт загадзя зліваць не трэба. Дарэчы, мінскі пункт прыёму акумулятараў знаходзіцца ў тым самым Гатаве, варта толькі праехаць далей, да канца пасёлка.

### Знайдзі сам

Нічога не ўдасца атрымаць за здадзеныя батарэйкі і лямпачкі. Больш за тое, давядзецца паклапаціцца, каб іх кудысьці ўладкаваць. Батарэйкі можна ўкінуць у спецыяльныя кантэйнеры ў большасці гандлёвых цэнтраў, а лямпачкі вярнуць у краму, у якой яны былі купленыя. Яшчэ адзін варыянт — аднесці ў арганізацыю «Экалогія-121», якая знаходзіцца ў цэнтры Мінска па адрасе вул. Смалячкова, 9—518.

А вось іртутныя тэрмометры прымаюць падраздзяленні Міністэрства па надзвычайных справах. Яны працуюць з юрыдычнымі асобамі, але прымаюць тэрмометры і ад грамадзянаў.

### Дзяржава адстае ад рынку. І ад Еўропы

Дзяржаўныя арганізацыі, якія выкупляюць у насельніцтва слоікі і бутэлькі, выстаўляюць цэны ніжэйшыя, чым у прыватнікаў. Напрыклад, трохлітровыя слоікі можна прадаць па аб'яве ў «З рук у рукі» за 2000—3000 рублёў, а кожны са ста пунктаў прыёму шклатары гатовы заплаціць толькі 510 рублёў. Тая ж сітуацыя з бутэлькамі з-пад піва і гарэлкі. А вось нестандартныя слоікі застаецца альбо выкінуць, альбо здаць на шклабой у пункты «Экарэс» — у адным толькі Мінску іх налічваецца некалькі дзясяткаў. Вось толькі кошт не парадуе — каля 150—200 рублёў за кілаграм.

Яшчэ горшая сітуацыя з макулатурай. Зацягнуўшы ў пункт прыёму нават 30 кілаграмаў старых кніг і часопісаў, наўрад ці акупіш нават праезд. Усё ж 50 рублёў за кілаграм — смешная кампенсацыя.

Утылізацыя смецця ў Беларусі пакуль знаходзіцца ў зародкавым стане. Еўрапейскія краіны пайшлі на шмат крокаў наперад. Там склалася ўявіць сітуацыю, каб чалавек быў вымушаны даплачваць за тое, што не выкінуў хлам да пад'езда, а прывёз яго на перапрацоўчае прадпрыемства.

**Ягор Марціновіч**

ЗДАРОЎЕ

## Пачалася бясплатная вакцынацыя супраць грыпу

Імунізацыя за кошт сродкаў рэспубліканскага і мясцовых бюджэтаў будзе праводзіцца кітайскай вакцынай «Флюваксін», якая ўпершыню была выкарыстана ў Беларусі летась. Бясплатна прышчэпку будуць рабіць хворым з хранічнай паталогіяй органаў дыхання, сардэчна-сасудзістай, эндакрыннай сістэмы, грамадзянам з групы павышанай рызыкі. Акрамя таго, бясплатная імунізацыя будзе прапанавана дзецям.

Плануецца прышчапіць каля 3 млн чалавек (каля 30% насельніцтва), значная частка з якіх будзе прышчэплена за кошт уласных сродкаў і сродкаў прадпрыемстваў.

Прагназуецца, што эпідэмія грыпу сёлета будзе сярэдняй ступені інтэнсіўнасці і пройдзе ў студзені—лютым. Летась з кастрычніка па май у Беларусі на грып перахварэлі 210 тысяч чалавек, а на ВРВІ — каля 3 млн чалавек.

**БелаПАН**

ТЭЛЕВІЗАР

## Мінск застаўся без «Еўраспорта»

Найбуйнейшы кабельны аператар сталіцы МТІС не знайшоў валюты, каб працягнуць кантракт на трансляцыю каналаў «Еўраспорт» і «Еўраспорт-2». Такую прычыну паведамляюць у службе падтрымкі аператара. Разам з тым, бягучы радок паведамляе, што перапынак у трансляцыі выкліканы «тэхнічнымі прычынамі».

«Еўраспорт» — самы папулярны еўрапейскі спартыўны канал. На тэрыторыі Беларусі паказвалася карцінка з каментарам расійскай дырэкцыі тэлеканала. Алімпійскія гульні, кубак свету па біятлоне, адборачныя гульні футбольных чэмпіянатаў свету і Еўропы — усё гэта з'яўлялася ў эфіры «Еўраспорта».

Замест «Еўраспорта» мінчане ўбачаць канал «СпортСаюз» ад НТВ+. МТІС вылучаецца сярод астатніх кабельных аператараў хаатычнай зменай каналаў. Чэрвеньскае выдаленне расійскага забаўляльнага канала ТНТ выклікала масавае абурэнне абанентаў. Тым не менш, паслугамі аператара карыстаецца каля 85% насельніцтва горада.

**ЯМ**

КІНО

## Сеансы эротыкі не акупіліся

З 1 снежня закрываецца «ЦэнтрВідэа» на плошчы Незалежнасці ў Мінску. Гэты філіял кінатэатра «Цэнтральны» быў адкрыты на ніжнім паверсе ГЦ «Сталіца» ў 2007 годзе. Апошнім часам ён прыносіў вялікія страты. «ЦэнтрВідэа» вылучаўся сярод іншых кінатэатраў сваёй праграмай. Тут паказвалі шмат рэтраперспектыўных фільмаў і нават — упершыню ў Беларусі — вячэрнія сеансы эротыкі. Першы ў Мінску 5D-кіназал таксама знаходзіўся ў «ЦэнтрВідэа».

**ЯМ**

ЕЖА

## У Маскве адчынілася «Беларуская хата»

Новы рэстаран знаходзіцца за некалькі сотняў метраў ад пасольства Беларусі ў Расіі і прапануе больш за 70 страваў беларускай нацыянальнай кухні. У канцэпцыю ўстановы ўваходзіць поўная забарона на курэнне. Прычым яна распаўсюджваецца на ўсіх: выключэння не было зроблена нават для міністраў і іншых афіцыйных асобаў, якія ўзялі ўдзел ва ўрачыстым адкрыцці рэстарана. Яшчэ адна асаблівасць — 85% абслуговага персаналу — грамадзяне Беларусі.

Кожную суботу ў «Беларускай хаце» будуць выступаць фальклорныя калектывы. Заснавальнікамі рэстарана сталі «Спартак», «Камунарка» і «Слодыч».

**БелТА**

ТЭХНАЛОГІІ

## iPhone 5 з'явіцца ў продажы 7 кастрычніка?

Наступная версія смартфона iPhone паступіць у продаж 7 кастрычніка. Apple пачне прымаць папярэднія замовы на iPhone 5 у апошнія дні верасня. На сённяшні дзень афіцыйна пра iPhone 5 нічога невядома, аднак існуе безліч чутак. Мяркуецца, што прылада будзе абсталявана двух'ядравым працэсарам A5 (такі ж усталяваны ў iPad 2), 8-мегапіксельнай камерай і аперацыйнай сістэмай iOS 5. Смартфон, верагодна, таксама атрымае шэраг новых функцый, такія як галасавая сістэма навігацыі ці магчымасць «склейвання» фатаграфій у панарамы.

Вонкавы выгляд гаджэта пакуль застаецца ў сакрэце. Калі верыць чуткам, апарат будзе мець танейшы корпус са скругленымі вугламі і металічнай акантоўкай.

**Vesti.ru**

ПРЫРОДА

## Подых зімы: птушкі пачалі адлятаць у вырай

Зараз адлятаюць на зімоўку шпакі і ластаўкі. У найбліжэйшыя тыдні можна будзе назіраць восеньскія пералёты буслоў і бежажанак. За імі ў паўднёвыя краіны пацягнуцца чароды гусей. У другой палове верасня пачнецца восеньская міграцыя жураўлёў. Да канца верасня, калі ночы стануць халаднейшымі, а корму для птушак стане меней, пералёты птушак будуць праходзіць больш інтэнсіўна.

Восеньскія міграцыі птушак будуць працягвацца аж да лістапада.

Разам з восеньскімі пералётамі птушак у паўднёвыя краіны восенню можна будзе назіраць прылёт у Беларусь са скандынаўскіх краін такіх відаў птушак, як амялушкі, чачоткі, рагатыя жаўрукі і іншыя.

**БелТА**



Чэмпіянат па кіданні каравякоў прайшоў у рамках музычнага фэсту «Вольнае паветра» на хутары Шаблі. Пераможца кінуў каравяк аж на 62,5 метра. Ва ўзнагароду ён атрымаў скрыню шампанскага. «Вольнае паветра» сабрала больш за дзве тысячы слухачоў.



Будаўнікі ўзнаўляюць гістарычны выгляд Холмскай брамы Брэсцкай крэпасці. Паралельна там адбываецца еўрарамонт, ужо паспелі ўсталяваць шклопакеты.






У аэрапорце «Мінск-2» цана на тавар розніцца ў залежнасці ад таго, ці купляеш беларускімі рублямі, ці валютай.

Сябры «Моладзі БНФ» у рэгіёнах адзначылі 20-ыя ўгодкі надання Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце канстытуцыйнага статусу вывешваннем нацыянальных сцягоў. 25 жніўня штандары з'явіліся ў Пружанах, Клецку. Асабліва дзёрзкай акцыя была ў Оршы, дзе сцяг залунаў на трэцім па вышыні будынку горада, за некалькі метраў ад мясцовага КДБ.

## Анекдоты

У гэтым годзе ў Беларусі курс даляра прывязаны да нумара месяца.

* * *

Анекдоты на гэтым тыдні публікуем у рубрыках «Фінансы» і «Эканоміка».

* * *

Беларусь выйшла нарэшце на адзіны курс валюты. Цяпер у абменніках замест двух курсаў валют (куплі і продажу), будзе толькі адзін — куплі.

* * *

Чаго Румас лётаў у Манака? Выйграць грошы ў казіно для беларускай эканомікі.

* * *

У беларускіх абменніках забаронены продаж гравіцапы, мелафонаў, вадзяных чыпаў для 13-га сховішча, валюты ды іншый экзотыкі.

* * *

Віна-гарэлачны завод «Крышталь» папярэджвае: паленне, паленне і толькі паленне шкодзіць вашаму здароўю.

* * *

— Каханая, ты паставіла пароль на камп'ютар?
— Так.
— І які ён?
— Дата нашага вяселля.
— Вось халера!

* * *

Студэнт у сталоўцы:
Дайце дзве сасіскі, калі ласка.
Чарга:
— Шыкуеш, гад?
Студэнт:
— І 16 відэльцаў, калі ласка.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Персія.** У Персіі, зруйнаванай мнагалетняй гаспадаркай скінутага шаха і паслярэвалюцыйным змаганнем, няма ўсё яшчэ спакою. Вернае новаму шаху і мэджлісу (думе) войска ў бітве разбіла вялікі атрад старога шаха.

**«НН». № 31-32. 1911**

**Алесь Бяляцкі: «Нам трэба нармальна правесці гэтыя выбары.** І кожны з нас павінен якасна зрабіць сваю працу — змабілізаваць выбарцаў, праназіраць як след. Я не дапускаю думкі, што мы можам кепска спрацаваць, мы павінны спрацаваць добра. Досыць нам ужо абы-як працаваць».

**«НН». № 35. 2001**

Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

**Наклад 7550.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 30.08.2011.
Замова № 4165.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.

Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614